



Літаратура і мастацтва

*газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

26 МАЯ 2000г. № 21/4053 КОШТ 80 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **400** рублёў, на квартал — **1 200** рублёў і на паўгоддзе — **2 400** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 250** рублёў, на квартал — **3 750** рублёў і на паўгоддзе — **7 500** рублёў.*

**Наш індэкс — <u>63856</u>.**

***І Бог пачуе нашы Словы,***
***І не адвернецца ад нас.***
***І прыйдзе дзень святы і новы,***
***І будзе ўсё, як першы раз...***



# КОЛА ДЗЁН

***Гэты тыдзень пачаўся з чуткі, што нібыта ў нашай краіне рэзка павялічыўся ўзровень радыяцыі. Адразу ж са штаба грамадзянскай абароны Мінска ў сродкі масавай інфармацыі прыйшло паведамленне, у якім начальнік штаба адзначыў, што ўзровень радыяцыйнага фону ў сталіцы складае 12—14 мікрарэнтген пры дапушчальнасці 30 мікрарэнтген, акрамя ўсяго радыяцыйны фон і на ўсёй тэрыторыі нашай краіны — у межах нормы. Лясныя пажары, што ў Гомельскай вобласці, не робяць істотнага ўплыву на радыяцыйную абстаноўку. Аднак, нягледзячы на ўсе супакаенні, многія вераць чуткам, кіруючыся жыццёвым правілам, што чуткі на пустым месцы і самі па сабе не ўзнікаюць... А жыццё працягваецца...***

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

З першага мая павялічылася мінімалка і склала 2 600 рублёў. Адпаведна ўзраслі заробкі. Праўда, новыя заробкі яшчэ мала хто атрымоўваў. А пакуль што толькі звесткі Міністэрства статыстыкі і аналізу, паводле якіх сярэдняя па краіне налічаная зарплата ў красавіку склала 47 160 рублёў. У параўнанні з сакавіком яе рост нязначны — усяго 3,5 працэнта. Аднак гэта сярэдняя лічба, а наогул на працягу красавіка зарплата работнікаў калгасаў павялічылася на 14,9 працэнта (24 497 руб.), саўгасаў — на 7,6 (30 588 руб.), чыгункі — на 17,7 (61 232 руб.), сувязі — 6,6 (54 142 руб.), будаўніцтва — 4,5 (56 674 руб.), гандлю і грамадскага харчавання — 3,7 (39 634 руб.), прамысловасці — 2,2 працэнта (59 464 руб.). Як амаль кожны месяц значна ўзраслі заробкі работнікаў страхавання (у параўнанні з сакавіком — на 25 працэнтаў) і банкаў (8,7 працэнта) і склалі 68 346 і 92 330 рублёў адпаведна. Па-ранейшаму не нашмат пабагацелі работнікі мастацтва — зарплата павялічылася на 1,6 працэнта (32 041 руб.), на 1,5 — па сістэме аховы здароўя (36 094 руб.), на 1,4 — па культуры (30 770 руб.), на 0,7 — па сацыяльным забеспячэнні (22 726 руб.), на 0,5 — па жыллёва-камунальнай гаспадарцы (48 110 руб.) і на 0,3 працэнта — па адукацыі (35 394 рублі). Такія вось лічбы...

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Неўзабаве ў школах пачнуцца выпускныя экзамены і дзесяткі тысяч хлопцаў і дзяўчат паўстануць перад выбарам куды пайсці вучыцца. Выбар, як заўсёды, вялікі. Але, як гаворыцца, мы выбіраем і нас выбіраюць. Таму, думаецца, варта звярнуць увагу будучым студэнтам на статыстыку і зрабіць для сябе пэўныя высновы. Нягледзячы на тое, што ў нашай краіне адсутнічаюць абмежаванні па палавых прыкметах пры паступленні ў ВНУ, існуе традыцыйны падзел на мужчынскія і жаночыя прафесіі. Больш за ўсё хлопцаў сярод студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (82,9 працэнта), Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта (79,6 працэнта), Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі (68,7 працэнта), Гомельскага тэхнічнага універсітэта імя Сухога (66,7 працэнта). У ВНУ, якія рыхтуюць спецыялістаў для сферы адукацыі, культуры, гандлю, аховы здароўя, найбольш вучыцца дзяўчат. Так, больш за ўсё студэнтак у Баранавіцкім дзяржаўным педагагічным каледжы (83 працэнты), Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (79,5 працэнта). Так што, хлопцы і дзяўчаты, думайце куды і каму лепей ісці вучыцца!

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Быў час, калі ў Беларусі было ўсяго толькі некалькі універсітэтаў. На сённяшні ж дзень іх у нас дзесяткі, як і мае быць у еўрапейскай дзяржаве. Лік універсітэтаў павялічыцца і ў гэтым годзе. Загадам Міністэрства адукацыі Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут пераўтвораны ва ўстанову адукацыі пад назвай "Магілёўскі дзяржаўны тэхнічны універсітэт". Ужо распрацаваны і вынесены на абмеркаванне статут новай ВНУ. Урачыстасці з нагоды ўтварэння ў Магілёве тэхнічнага універсітэта плануюцца на восень.

## ЗАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Калі ў бухгалтэрыі няма грошай, зарплату ў наш час могуць выдаць тым таварам, які ты сам вырабляеш. Выдадуць тавар, а ты ўжо глядзі, што з ім рабіць. І, каб і ў гэтай справе быў хоць нейкі парадак, Савет Міністраў зацвердзіў пералік тавараў, якімі не можа ажыццяўляцца натуральная аплата працы наймальнікамі. У гэты пералік уключаны нафтапрадукты і гаруча-змазачныя матэрыялы, лекавыя сродкі і вырабы медыцынскага прызначэння, дэзінфекцыйныя сродкі, алкагольныя напоі, тытунёвыя вырабы, наркатычныя рэчывы, нехарчовая прадукцыя, якая ўтрымлівае спірт, каштоўныя металы і камяні ў любым выглядзе і стане, выбуховыя і атрутныя рэчывы, прамысловыя выбуховыя матэрыялы.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову, згодна з якой устаноўлены новыя стаўкі кватэрнай платы, што распаўсюджваюцца толькі на нарматыўную плошчу, устаноўленую Жыллёвым кодэксам. У яе ўключаюцца 20 квадратных метраў агульнай плошчы жылля на кожнага члена сям'і наймальніка, уласніка або члена арганізацыі грамадзян-забудоўшчыкаў і 10 квадратных метраў агульнай плошчы на ўсіх жыльцоў. Плата за карыстанне астатняй плошчай будзе збірацца па сабекошце эксплуатацыі жыллёвага фонду, што зацвярджаецца выканаўчымі камітэтамі. У сярэднім ён у дзесяць разоў перавышае стаўку кватэрнай платы.

## ПРАПАНОВЫ ТЫДНЯ

Не за гарамі лета — час адпачынкаў. Хто мае вялікія грошы — той едзе ў замежжа. Але самыя дальнабачныя і не самыя багатыя грамадзяне, якія не могуць далёка паехаць, пачалі выкупляць і браніраваць сабе месцы для летняга адпачынку яшчэ ў пачатку красавіка. І на сённяшні дзень у амаль усе прэстыжныя гасцінічныя комплексы і базы ўжо практычна трапіць немагчыма. Цэны на пуцёўкі вар'іруюцца ў залежнасці ад прэстыжнасці месца адпачынку і ўзроўню камфортнасці. Так самы танны адпачынак, які могуць прапанаваць сёння турагенцтвы свайму кліенту, каштуе 3-4 тысячы рублёў у суткі, а адпачынак у гасцінічных комплексах на Нарачы ці на Браслаўскіх азёрах пацягне на 10-15 тыс. рублёў за кожны дзень знаходжання. Словам, няслаба...

## АБ'ЯВА ТЫДНЯ

Здавалася б, што незваротна разам з Савецкім Саюзам сышла ў небыццё такая рэч, як грашова-рэчавая латарэя. Ды не. У Брэсце аб'яўлена аб правядзенні адразу дзвюх латарэй — імгненнай грашова-рэчавай "Міг удачы — Брэст" і тыражнай грашова-рэчавай "Бярэсце-2", заснавальнікам і гарантам якіх выступіў Брэсцкі аблвыканкам. Першая латарэя праводзіцца з мэтай атрымання дадатковых сродкаў для фінансавання сацыяльных праграм. Білеты латарэі выпускаюцца серыямі да 1 мільёна. Выйгрышны фонд кожнай серыі складае 45-50 працэнтаў ад яе сумарнага кошту. Грашова-рэчавая латарэя "Бярэсце-2" будзе праводзіцца таксама выключна на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. З 25 мая мяркуецца прадаць 50 тысяч білетаў, розыгрыш якіх адбудзецца 20 жніўня ў Брэсце. У серыі будуць разыгрывацца тры кватэры ў Брэсце (адна-, двух- і трохпакаёвая), 10 аўтамабіляў "Волга-3110", грашовыя выйгрышы будуць вагацца ад 5 тысяч да 1 мільёна рублёў. Купляйце латарэі і выйгравайце!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Стагоддзю Уладзіміра Жылкі быў прысвечаны чарговы ўрок літаратуры, які прайшоў у пісьменніцкай бібліятэцы. Пра творчасць і жыццёвы шлях выдатнага беларускага паэта гаварылі Вольга Іпатава, Алесь Пашкевіч, песні на вершы У. Жылкі выканаў Алесь Камоцкі. З вялікай цікавасцю выслухалі прысутныя выступленне ўнучатага пляменніка паэта Сяргея Рыжычыцкага.

●

Традыцыйнае свята "Сымон-музыка" прайшло на Стаўбцоўшчыне, у родных мясцінах Якуба Коласа. Як звычайна, у праграме свята былі літаратурныя выступленні, рэспубліканскі конкурс дзіцячых музычных калектываў. Чынны ўдзел у сёлетніх мерапрыемствах прынялі сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, мастачка Алена Лось, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, дырэктар музея Я. Коласа ў Мінску Зінаіда Камароўская.

●

Сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў з намеснікам прэм'ер-міністра, міністрам замежных спраў Беларусі выклікала водгук у пасольствах нашай краіны за мяжой.

У прыватнасці, па ініцыятыве пасольства ў Балгарыі, як паведаміў пасол Беларусі А. Герасіменка, ажыццёўлена выданне цэлага шэрагу твораў беларускіх аўтараў. Гэта зборнік апавяданняў Васіля Быкава, зборнік "Панарама", які ўключае пераклады 50 сучасных беларускіх пісьменнікаў, зборнікі вершаў Я. Янішчыц, А. Разанава, паэма Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" і інш.

Цяпер у Балгарыі рыхтуецца да выдання анталогія беларускай паэзіі ад сярэднявечча да нашых дзён.

Пасольства арганізавала шэраг літаратурных вечароў у Плевене, Перніке, Хаскава, іншых гарадах краіны. У многім дзякуючы актыўнай рабоце з балгарскімі літаратарамі за апошнія тры гады ў буйнейшых адміністрацыйных цэнтрах Балгарыі заснавана шэсць рэгіянальных аддзяленняў Таварыства дружбы "Балгарыя—Беларусь".

Дарэчы, якраз работа пасольства Беларусі ў Балгарыі і асабіста пасла А. Герасіменкі адзначалася сярод лепшых прыкладаў па сустрэчы беларускіх літаратараў з У. Латыпавым.

**Н. К.**

●

Адбылося чарговае пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, дзе першым пытаннем абмяркоўвалася правядзенне "Літэкспрэса-2000", які наведае нашу краіну ў сярэдзіне ліпеня гэтага года. Праект правядзення буйной міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў розных краін нарадзіўся ў Берліне і ахоплівае ўсе еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку і Беларусь. У Мінск завітаюць больш за 200 літаратараў з розных куткоў свету. У Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, у бібліятэках імя А. Пушкіна, Я. Купалы, Нацыянальнай акадэміі навук і інш. плануецца наладзіць сустрэчы замежных гасцей з прадстаўнікамі прэсы, чытачамі, грамадскасцю, у бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў мяркуецца арганізаваць выставу твораў айчынных аўтараў у перакладах на чатыры дамінуючыя мовы свету — да супрацоўніцтва, дарэчы, запрошаны студэнты лінгвістычнага універсітэта, — у Вялікай зале мае адбыцца сустрэча замежных аўтараў з беларускімі пісьменнікамі і кнігавыдаўцамі.

На пасяджэнні рады таксама разгледжана пытанне аб становішчы санаторыя-прафілакторыя СБП "Іслач". Са справаздачай выступіў намеснік старшыні СБП У. Мачульскі. Было адзначана, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці, адбыліся змены ў лепшы бок.

Па рэкамендацыі творчых секцый і прыёмнай камісіі адбыўся прыём новых сяброў у склад СБП. У выніку тайнага галасавання імі сталі Алесь Камоцкі, Тацяна Мушынская, Ларыса Раманава, Генадзь Рымскі.

**М. Р.**




# Адзнака таленту

Ёсць у нашай літаратуры асобы, якія, здавалася б, даўно і трывала замацаваўшыся сярод кагорты значных творцаў, у той жа час пазбаўлены экзальтавана-пампезнай "раскруткі", бясконцых выданняў і звышмасавых тыражоў. Да такіх можна аднесці і Вольгу Іпатаву.

І прычыны тут, як мінімум, дзве. Па-першае, кожнае новае выданне В. Іпатавай хутка раскупляецца аматарамі літаратуры, а па-другое, пісьменніца не разменьваецца на "вал", не закідвае выдавецтвы разнажанравымі рукапісамі, абы быць пастаянна "на плыву".

Думаецца, што і нядаўняя вечарына Вольгі Міхайлаўны, якая прайшла ў музеі Янкі Купалы па праграме прадстаўлення ўдзельнікаў "Літэкспрэса-2000", ярка засведчыла значнасць і вартасць асобы пісьменніцы і яе творчасці.

І калі, прадставіўшы шматлікім слухачам (у музейную залу давялося заносіць дадатковыя крэслы, каб размясціць усіх жадаючых) В. Іпатаву, яе калега па рабоце ў Саюзе пісьменнікаў Навум Гальпяровіч гаварыў аб асноўных рысах жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі пісьменніцы, то сама Вольга Міхайлаўна ўявіла прысутных у свет сваёй душы, дапамагла дакрануцца да крыніц уласнай творчасці.

Кожны змог упэўніцца, што сярод еўрапейскіх літаратараў з больш як дваццаці краін імя Іпатавай не згубіцца ў пераліку, што яе арыгінальная самабытная муза, як і двух іншых удзельнікаў літэкспрэса з Беларусі, будзе па вартасці ацэнена і адзначана.

В. Іпатава адказала на шмалікія пытанні. А ўзнагародай за вечарыну былі шчырыя апладысменты і духмяны караваі, спечаны вучнямі Міханавіцкай школы Мінскага раёна, якія спецыяльна прыехалі на гэтую сустрэчу.



**Н. К.**

*Фота М. ПРУПАСА.*

# Знайшлі агульную мову

У гонар Дня славянскай пісьменнасці і культуры ў Акцыянерным адкрытым таварыстве "Белмастацкераміка" прайшоў літаратурны вечар. Да вядомага ў краіне і за яе межамі прадпрыемства, якое здаўна славіцца сваімі вырабамі, завіталі пісьменнікі — Сяргей Законнікаў, Казімір Камейша і Павел Саковіч. А К. Камейша да ўсяго выступаў у адным з нумароў часопіса "Полымя" з матэрыялам, у якім пазнаёміў чытачоў старэйшага літаратурна-мастацкага часопіса з таленавітымі людзьмі, якія працуюць у "Белмастацкераміцы".

Сустрэча стала яшчэ адной падставай пагаварыць аб сувязі літаратуры з жыццём, тых праблемах, што стаяць сёння перад грамадствам па адраджэнні нацыі. Гучалі тэмы, якія аднолькава цікавяць і гаспадароў, і гасцей. І самая галоўная з іх: што зрабіць, каб у сваім агульным доме мы пачувалі сябе годна і ўпэўнена, былі гаспадарамі. Гучалі і творы, якія прачыталі ўдзячнай аўдыторыі госці. К. Камейша падарыў дванаццаты нумар часопіса "Маладосць" за мінулы год, у якім расказваецца пра мастака Леаніда Грыцкова, што працуе ў гэтым таварыстве.

**Н. К.**




# Пустадомак

*Лясы гараць у будні і у святы,*
*Гараць лясы, а нехта ж вінаваты,*
*Чыя асатанелая рука*
*Не затушыла ў лесе серніка?*
*Ад ледзь прыкметнае іскрынкі*
*Спраўляе лес вялікія памінкі:*
*Трашчыць і курчыцца і лісце, і іголка,*
*Нібыта ўдарыла знянацку навальніца:*
*Пабег агонь з сасны і да сасны, —*
*Бушуе і трашчыць пажар лясны:*
*Ад каранёў па вецці і да кроны*
*Заняўся полымем шацёр зялёны,*
*Трашчыць бяроста і кіпіць смала,*
*Хаўтурным стогнам пушча загула.*
*А нейкі пустадомак невядомы*
*На роверы спяшаецца дадому,*
*Педалі круціць шпарка, шпарка, —*
*Відаць, чакае недзе чарка.*
*Агонь гудзе у хмызняках балота.*
*А гэта ж — пустадомкава работа.*
*Раяцца іскры над суседнім садам,*
*Чарнобыльскім аднекуль цягне чадам,*
*Дым засланіў палову неба,*
*Трашчыць калоссе,*
*папялее глеба.*
*Лайдак зусім не думае пра страты,*
*Пакуль агонь ідзе яшчэ да хаты.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

21/V—2000

ВАРУНКІ

# Дачныя прыгоды



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

## КАПУСТА І КЛУБНІЦЫ

На гэты раз з такім кепскім настроем дабіраўся да сваёй "фазэнды", што далей няма куды. Гойдацца б пацішу ў гамаку, ды дзе там — не да адпачынку на сёння дачніку, за жыццё змагацца трэба. Гэта калісьці лецішчы былі месцам здаровага і разумнага адпачынку на ўлонні прыроды. Зараз дачнік — раб уласных сотак, рыдлёўкі і неажыццёўленых мараў аб хоць неікім росце дабрабыту. Так што ўсё лета — пудзілам на градах. Аром, саджаем, скародзім. Вёдрамі тралюем ваду для палівкі кволых узыходаў. І ад пасадкі да ўборкі бессэнсоўна змагаемся з непераможным пустазеллем.

Тут міжволі ў галаву ўсякае трызненне лезе. Да прыкладу, чаму вучоныя-селекцыянеры, якія выхваляюцца сваімі дасягненнямі, не выведуць такія гатункі, у якіх бы спалучаліся якасці культурных раслін з якасцямі дзікіх, таго ж самага пустазелля з яго жыццядольнасцю, непатрабавальнасцю да ўрадлівасці глебы і капрызаў надвор'я. Сапраўды, чаму? Стварылі ж новы від збожжавых — трыцікалі, з якасцямі жыта і пшаніцы... Не, відаць, дарэмна спісалі з рахункаў навуковыя завіханні Мічурына, які не без поспеху выводзіў новыя віды садавіны шляхам скрыжавання самых розных гатункаў.

І яшчэ. Чаму ў век засваення космасу, паўсюднай механізацыі і аўтаматызацыі, мы, гаротнікі, вымушаны здабываць "пропитание" ледзь не спосабам першабытнага чалавека? Чаму б, сапраўды, замест абрыдлай рыдлёўкі не выдумаць урэшце гэткі бульбяны "магніт", з дапамогай якога і выцягваць бы ўвобмірг з зямлі ўвесь вырашчаны ўраджай клубняў?

Так, глыбакадумна разважаючы з самім сабою, і не заўважыў, як твар у твар сутыкнуўся са знаёмай пакутніцай па агульным садова-агародным таварыстве.

— Куды спяшаецеся, шаноўная? — пытаюся, павітаўшыся.

Аказваецца, вырашыла яна паболей капусты пасадзіць, а расаду мошка амаль з'ела. Вось і ляціць на электрычку, каб зранку, часу не губляючы, набыць патрэбны ёй пасадачны матэрыял.

А ў мяне гэтай расады больш чым дастаткова. Сабе пасадзілі колькі трэба, суседу паддобрыліся ды яшчэ і засталася. Я і гавару жанчыне: навошта вам той рынак. Вазьміце ў мяне. І платы не трэба...

Натуральна, тая ўзрадавалася — так проста і лёгка праблема вырашылася.

І ў мяне чамусьці кепскі настрой знік. Як і не было. Цэлы дзень працаваў на сотках з ахвотай і асалодай. І зрабіў больш, чым у іншыя разы. І не такая ўжо, спадары, дрэнная справа — гэта самая ўласная "фазэнда"!

Нягледзячы на стому, дадому крочылася лёгка, з пачуццём "глубокого удовлетворения" ад таго, што зрабіў штосьці добрае і дзеля сябе, і дзеля іншага.

Нечаканая чую — кліча нехта. Азірнуўся — даганяе тая самая дачніца, якая брала ў мяне расаду.

— Гэта вам, — працягвае, дагнаўшы, слоік чырвоных клубніц. — Першыя, толькі выбрала...

І ніякае "няма за што" не дапамагло, каб адмовіцца...

## ПАСАЖЫР З КУЛЬБАЙ

На чарговым прыпынку электрычкі ў вагон зайшоў пасажыр. З кульбай, рукзаком за плячыма і планкамі баявых узнагарод на пінжаку. Мабыць, як і многія, вяртаўся з дачы і, зразумела, быў стомлены. Хоць і не выглядаў бездапаможным, тым не меней нейк няёмка было бачыць, што ўсе атабарыліся на лаўках, камфортна адпачываюць, а пажылы чалавек стаіць, абапёршыся на кульбу.

Справа звычайная — ніякай рэакцыі з боку пасажыраў. Хто неадрыўна пазіраў за вакно. Хто, засляпіўшыся, драмаў. Хто ўтаропіўся ў свежую газету, толькі што набытую ў прайшоўшага "карабейніка". А хто засяроджана разгадваў "крыжаванку".

І вось адна жанчына, што ехала з малым дзіцём, пасадзіла яго на калені і падала знак пажылому пасажыру: маўляў, свабодная месца ёсць.

Дзядзька з кульбай падзякаваў і стомлена прысеў на краёк лаўкі.

— Вы прабачце, што я вас пацясніў, — вінавата загаварыў ён. — Каб не ногі, з вайны параненыя...

— Што вы, што вы, ніяк вы нас не пацяснілі, — таропка адказала жанчына. — Калі ласка, сядайце зручней, — і пасунулася шчыльней да суседкі з другога боку.

І адразу няёмкасць, якая вітала ў паветры, знікла. Быццам у вагоне і пасвятлела нават.

На развітанне пасажыр яшчэ раз падзякаваў жанчыне. Пажадаў ёй і дачушцы здароўя і ўсяго добрага. Пасажыры з цікавасцю сачылі за гаворкай. Але хавалі чамусьці вочы.

## ДЗЕЙСНЫ ЎРОК

Здарылася так, што на лячэбную працэдуру заявіўся прама з дачных град — у рабочым адзенні, няголены, у запыленым абутку. І да ўсяго — наеўшыся часнаку. Яго кволыя лісточкі толькі прабіліся з глебы, і нельга было не ўтрымацца, каб не пакаштаваць першых зялёных вітамінаў.

Лекарка, да якой мне трэба было, славілася ветлівасцю і ўвагай. Пацыенты да яе заўжды з сімпатыяй і даверам. А як працэдуры выконвае! Сэрца добрае — рука лёгкая! Якраз той рэдкі выпадак, калі ад наведвання ўрача хвораму адразу робіцца лягчэй.

Так было заўсёды. А сёння нібы паміж намі чорная котка прабегла. Што такое? Ні ветлай усмешкі, ні прыкметнай увагі. І хоць з працэдурай справілася як і заўжды па-майстэрску, але чамусьці не адчуў я чаканай палёгкі.

Безумоўна, нічым свайго некамфортнага самаадчування не выдаў. Мала што ў чалавека здарылася, мо адсюль і настрой не той. І, як заўсёды, шчыра, ад душы падзякаваў, пажадаў усяго найлепшага.

У адказ жа замест заўсёднага "няма за што, хутчэй папраўляйцеся", пачуў:

— Вы даруйце, калі ласка, але прыходзьце ў наступны раз паголены і не ешце так многа часнаку...

Я доўга гадаў, як рэабілітавацца. Апрануў свежую кашулю, натуральна, пагаліўся з усёй стараннасцю. А што замест часнаку? Раптам даўмеўся: напарфумлюся так, каб ужо з парога напоўніўся ўрачэбны пакой водарам павагі, свята і ўрачыстасці. Так і зрабіў. Толькі адчыніў дзверы медкабінета, як мая суровая лекарка ад душы рассмяялася. А працэдура зноў набыла прыемны аздараўленчы эфект.

## ЦЯЖКА БЫЦЬ ДЖЭНТЛЬМЕНАМ

Адбылося гэта ў электрычцы, калі дачнікі вярталіся са сваіх агародна-садовых дзялянак. Як заўсёды, у такі час вагоны перапоўненыя да адказу, праходы застаўленыя разнастайнай тарай, нагружанай пад завязку.

Насупраць нас — я ехаў з сябрам — размясцілася сярэдніх гадоў жанчына. З яе пакункаў прывабна выглядвалі ладныя, адзін у адзін, агуркі, чырванашчокія памідоры, іншая агародная зеляніна. І што кідалася ў вочы (не ў прыклад многім пасажырам, якія паціху драмалі) — яна была ўся ў рабоце: ні на што не звяртаючы ўвагі, энергічна лушчыла ў прыпол стручкі фасолі. І так у яе гэта ёмка атрымоўвалася, што нельга было не заглядзецца.

Як у дарозе водзіцца, завязалася размова. Жанчына аказалася гаваркой, з прыемнай усмешкай у вачах. Яна ахвотна нам распавядала, як, нягледзячы на спякоту і сухмень, вырасціла выдатныя гуркі, памідоры... Вось і фасоля, якую лушчыла, таксама была адметнай — буйной і ўмалотнай.

Па ўсім было бачна, што перад намі ўвішная спрактыкаваная гаспадыня. Ну як такой не пасімпатызаваць. Міжволі думалася: дзякуючы дачам некаторыя іх уладальнікі так авалодалі ведамі і сакрэтамі агратэхнічнай навукі, што пазайздросціць ім могуць іншыя аграномы-прафесіяналы.

Калі цягнік наблізіўся да апошняга прыпынку, наша субяседніца вельмі акуратна (не дай Бог, каб хоць адной лушпінкай не насмецць) ссыпала свой ураджайны намалот з прыполу ў поліэтыленавы мяшэчак. Атрымаўся даволі ёмкі прывабны кулёк. Перш чым уладкаваць яго на месца, жанчына палюбавалася, нібы гаворачы і сабе і нам — не, не дарэмна старалася.

І тут мой сябра, вялікі аматар пажартаваць, асабліва над прадстаўніцамі прыгожай палавіны не ўтрываў:

— Ведаеш, — звярнуўся да мяне на поўным сур'ёзе, — давай адбяром гэты кулёк. Што нам, старым рэкецірам, гэта будзе каштаваць? Пакуль разбяруцца, што да чаго, мы ўжо будзем далёка. І кулёк будзе наш...

Субяседніца адпарыравала ўмомант:

— Я думала, з джэнтльменамі гутару, — расчаравана сказала яна. — А вы рабаўнікі звычайныя...

Вось дык пажартавалі! І хто за язык цягнуў! Але "выправіліся" хуценька. Калі прыехалі да месца — дапамаглі дачніцы паднесці рэчы (сама б ці ўправілася?). Пакункі цягнулі з цяжкасцю. Быць джэнтльменам — справа не з лёгкіх. Дзякаваць Богу, трамвайны прыпынак быў непадалёку.

**Яўхім ІВАНОВІЧ**

ФРАГМЕНТЫ

# Хвіліны яснасці

***Прадстаўляць лімаўскаму чытачу Махандаса Карамчанда Гандзі (Махатму Гандзі) наўрад ці ёсць неабходнасць — імя славутага сына Індыі добра вядома ў нас, як, дарэчы, і ва ўсім свеце. Гэтыя выказванні М. Гандзі ўзяты з ягонай кнігі "Усе людзі — браты", выдадзенай у Маскве на рускай мове ў 1987 годзе.***

•

Большасць пасланняў, звернутых да мяне, аздоблены хвалебнымі эпітэтамі, невыноснымі для мяне. Яны не прыносяць карысці ні мне, ні іх прыдумшчыкам. Нястрымная пахвальба прыніжае: даводзіцца прызнаваць, што я не заслугоўваю яе. Ды і тая, якая заслужаная, — празмерная. Пахвальба не можа паспрыяць дабрадзейнасці. Але, калі страціць пільнасць, яна можа лёгка ўскружыць галаву. Пра дабро, якое робіць чалавек, лепш за ўсё прамаўчаць. Пераняць добры прыклад — вось самая шчырая пахвальба.

•

Я не прарок. Я не прымаю арэола святасці. Я ад свету гэтага, я зямны... Я не застрахаваны ад слабасці гэтак жа, як і вы. Але я бачыў свет. Я жыў у ім з шырока расплюшчанымі вачыма. Я прайшоў праз самыя суровыя выпрабаванні, якія выпадаюць на долю чалавека. Я прайшоў гэтую навуку.

•

Тое, што ўласціва людзям, уласціва й нацыям. Людзі не ўмеюць дароўваць занадта многае. Слабыя ніколі не дароўваюць. Здольнасць даравать — уласцівасць моцных.

•

Калі б у мяне не было пачуцця гумару, я даўно налажыў бы на сябе рукі.

•

Рацыяналісты — слаўныя людзі, рацыяналізм, які прэтэндуе на ўсемагутнасць, — пачвара. Прыпісваць розуму ўсемагутнасць — такое ж паганае ідалапаклонніцтва, як абагаўленне каменных і драўляных ідалаў. Я не за абмежаванне ўлады розуму, а заклікаю аддаць належнае таму ў нас, што яго асвячае.

•

Якой бы дробязнай справай вам ні давялося займацца, рабіце яе найлепшым чынам. Аддавайце ёй столькі ж увагі, колькі таму, што лічыце важным. Акурат па гэтых нязначных справах людзі і будуць меркаваць пра вас.

•

Я зусім не прыхільнік беспадстаўнага пакланення перад усім, што называецца "стрададаўнасцю". Я без ваганняў адкідваю недарэчнае і амаральнае, якім бы старадаўнім яно ні было, але, зрабіўшы гэтую агаворку, прызнаюся, што шаную старадаўнія звычаі; мне балюча думаць, што людзі ў пагоні за ўсім сучасным пагарджаюць старымі традыцыямі і не шануюць іх у паўсядзённым жыцці.

•

Права сурова крытыкаваць людзей мае той, хто пераканаў іх у сваёй любові да іх, у разумнасці сваіх меркаванняў, хто ўпэўнены, што яго ані не ўсхвалюе, калі людзі не прымуць ягоных ідэй, не скарыстаюцца імі. Іншымі словамі, крытыку патрэбны дар яснага ўспрымання свету і бязмежная цярплівасць.

•

Нас прывучылі думаць, што прыгожае неабавязкова карыснае, а карыснае не можа быць прыгожым. Я хачу паказаць, што карыснае таксама можа быць прыгожым.

•

Людзі, якія сцвярджаюць, што іх мэта "мастацтва для мастацтва", не заслугоўваюць прызнання. Мастацтву ёсць месца ў жыцці: ці варта задумвацца над пытаннем: "Што такое мастацтва?" Але мастацтва — толькі сродак да дасягнення мэты, да якой мы ўсе павінны імкнуцца. Калі ж мастацтва з'яўляецца самамэтай, яно прыгнятае і прыніжае чалавека.

•

Усё існае мае два бакі — унутраны і вонкавы. Пытанне ў тым, чаму аддаецца перавага. Вонкавы бок анічога не варты, калі не дапамагае выявіць унутраны. Сапраўднае мастацтва — выяўленне душы. Форма каштоўная адно пастолькі, паколькі дазваляе раскрыць духоўную сутнасць чалавека. Мастацтва такога роду найбольш прыцягальнае для мяне. Я ведаю многіх людзей, якія называлі сябе мастакамі, атрымалі прызнанне, але не бачу ў іхніх працах і намёку на неспакой душы, імкненне душы да дасканаласці.

•

Жыццё вышэй за любое мастацтва. Больш за тое, я заяўляю, што чалавек, чыё жыццё блізкае да ідэалу, — найвялікшы мастак, бо што ёсць мастацтва без надзейнага грунту высакароднага жыцця?

•

Цудоўныя творы нараджаюцца сапраўдным спасціжэннем свету. Калі моманты, хвіліны яснасці рэдкія ў жыцці, яны рэдкія і ў мастацтве.

•

Сапраўднае мастацтва прымае да ўвагі не толькі форму, але і тое, што хаваецца за ёй. Ёсць мастацтва, якое забівае, і мастацтва, якое дае жыццё. Сапраўднае мастацтва — сведчанне шчасця, здаволенасці і чысціні памкненняў яго стваральнікаў.

•

Мы нейк прывыклі думаць, што мастацтва не залежыць ад чысціні асабістага жыцця. Зыходзячы са свайго вопыту, даводжу, што не існуе большай памылковасці. Паколькі я завяршаю сваё зямное існаванне, магу сказаць, што чысціня жыцця — самае высокае мастацтва. Многія, навучыўшыся спевам, авалодваюць мастацтвам выканання музыкі, але мастацтва здабываць музыку з гармоніі чыстага жыцця дасягаецца надзвычай рэдка.

•

Дзіўна, у якой прастаце і сціпласці жыў Талстой! Народжаны і выхаваны ў раскошы і камфорце багатай арыстакратычнай сям'і, шчодра абсыпаны зямнымі дабротамі, якіх можна толькі пажадаць, гэты чалавек, спазнаўшы ўсе радасці жыцця, адвярнуўся ад іх у росквіце гадоў і ніколі больш імі не спакушаўся...

## "Мерцающая бесконечность"

**Прадпрыемства "Тэхнапрынт" дало жыццё другой кнізе Веры Страмкоўскай "Мерцающая бесконечность". Аўтар прадстаўлена ў ёй як вершамі, так і празаічнымі творамі. У абодвух выпадках**




**— споведзь сучаснай жанчыны. Споведзь гэтую выдавецкая анатацыя характарызуе як "звышдаверлівы кантакт з чытачом". І сапраўды, лірычнай гераіні В. Страмкоўскай не адмовіш у адкрытасці. Яна гатова падзяліцца самым запаветным і адначасова не хавае сваёй трывогі, мінутнай няўпэўненасці, шмат у чым вагаецца і сумняваецца. Гэта ў аднолькавай ступені тычыцца і вершаў, і прозы.**

**Вершы прадстаўлены ў першым раздзеле "Надежность обещена снегом...", што ўяўляе як бы кнігу ў кнізе. Шмат у чым элегічна гучыць у ёй першы верш:**

*Дорога, дорога, пустые дома,*
*Железных ворот*
*устаревшая тайна...*
*В едином порыве весна и зима,*
*Уставших деревьев*
*лесная окраина.*

*И все так торжественно,*
*все так старо,*
*Что день беспрепятственно*
*следует свету,*
*И так неожиданно*
*жить тяжело,*
*Когда эту жизнь*
*узнаешь по приметам.*

**Аднак, як няцяжка заўважыць, элегічнасць гэтая асобага складу. Прысутнічае не столькі сум па незваротна страчаным і пройдзеным, усведамленне, што многае немагчыма вярнуць назад. Важна і, калі так можна сказаць, жыццёвая напоўненасць радка. За, здавалася б, у многім звыклымі матывамі паўстае проза паўсядзённасці, а яна, гэтая проза, немагчыма без паэзіі. Паэзіі той жа паўсядзённасці, паэзіі тых жа звыклых будняў. Таму і хочацца пасля гэтай элегічнасці чагосьці светлага, узвышанага, а яно, верыш, абавязкова будзе ў вершах В. Страмкоўскай. І чытаючы твор за творам, знаходзіш тое, што прымушае інакш ужо глянуць на акаляючы свет, упэўніцца, як шмат у ім таго, што пераконвае: вялікая радасць і вялікая загадкавасць — жыццё:**

*Жизнь — дуновение раннего утра,*
*Тайного жеста прядь у виска.*
*Ах, как блестят*
*облака перламутром!*
*Как распахнулась навстречу река!*
*И на одно лишь*
*припомню мгновение,*
*Кто я и чьи за спиною шаги.*
*Жизнь, я уже научилась*
*терпению,*
*Словно постигла тайну реки.*

**Вершы В. Страмкоўскай вельмі настраёвыя, прынамсі, тыя з іх, у якіх душа лірычнай гераіні асабліва чуйна ловіць усё тое, што адбываецца: і ў самім чалавеку, і ў свеце, які навокал нас. І тады авалодвае табой асаблівае пачуццё, якое звычайнымі словамі перадаць немагчыма, бо ў такім разе страціцца непаўторнасць малюнка:**

*Меж дуновеньем и теплом*
*Приметы поезда ночного,*
*И лай собаки*
*за углом,*
*И недосказанное слово,*
*Когда уже рука в руке...*
*И страх разрушить*
*постоянство,*
*Как будто поезд вдалеке, —*
*И надвигается пространство,*
*Окутывая нас волной*
*Тревоги, и волной покоя,*
*И купол неба надо мной*
*Вот-вот созвездие раскроет.*

**У раздзеле "Как рождается истина" змешчаны празаічныя творы: навелы, дарожныя нататкі, развагі над жыццём. Як і ў вершах, у іх паўстае жанчына, якая шукае сябе ў свеце і сярод людзей.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Мёд цячэ ў Шчару

Апошнім часам мяне раздражняе нават уласнае пісанне, нібы сённяшняе надвор'е за вакном, — не ведаеш у чым выйсці да людзей, каб, крый Божа, не выклікаць іранічнай насцярожанасці альбо грубай насмешкі...

Ні то апатыя, ні то патаемная ўнутраная паталогія змушаюць цябе глядзець на ўсё скасавурана і туманна — і ўсё бачыць як перашкоду і свайму ўласнаму і грамадскаму жыццю ўвогуле...

Ужо і не да палітыкі, і не да літаратуры, па вялікім рахунку. Бо за што ні вазьміся — усё нетрывалае, як спісаны чорнай ноччу белы аркуш паперы...

Якраз пад такі настрой і патрапіў да мяне вершаваны зборнік "Чарнавікі...", самаўпэўнена пазначаны аўтарам ці выдаўцамі як "паэзія".

А аўтар-то — даўні знаёмец мой, пчаляр

Прынцыповую і, як на маю думку, дакладную характарыстыку Міколу Папеку даў у сваёй каструбаватай, але адметнай прадмове да зборніка Мікола Купрэеў: "Ён ведае мастацкую літаратуру, філасофію, гісторыю, трактар і аўтамашыну. Пчаляр, ён мала есць мёду і любіць параны бурак".

Значыць, мёд усё-ткі пакідае людзям, як цесля — хату, а сейбіт — хлеб...

***А цалкам Папека —***
***з гарачае печы пахкі***
***бохан хлеба.***

Менавіта так бачыць самога сябе аўтар кніжкі. Ды і ўвесь зборнік вобразна адсвечвае падобнай паганскай ідыліяй: неба, сонца (бог РА), птушкі, пчолы, людзі, валуны... Як у парыве шчырасці, не баючыся нарвацца на пародыю, напісаў наш паэт:

***Пасвяцца каровы,***
***пішуцца вершы.***

***Нешта я апатурыў; гляджу з абурэннем,***
***як народа душа зарасла жабурэннем.***
***Партызанам пайду***
***на забытыя бацькавы гоні,***
***дзе скубуць палыны бязгубыя***
***калгасныя коні.***

Адчуваецца нават, як гэтае абурэнне і гнеў пераліваюцца праз край абражанай душы, збіваючы дыханне і вершаваны рытм заключнага радка.

Можа, менавіта такія вершы дазваляюць Папеку быць бяспечным і раскаваным, каб майстравіта заяўляць:

***Я не першы сярод паэтаў няўдачнік.***
***Удаўся верш — і ўжо ён не твой...***

З агідай назіраючы сённяшнюю беларускую рэчаіснасць — гэтую агульную плынь уніз па выпрастаным русле ("Тутэйшы беларус// па-новаму // тынкуе мур, — // вывешвае расейскую шыльду"), паэт упарта і краязнаўца з вёскі Лінава, што на Пружаншчыне, Мікола Папека. Чацвёрты дзесятак зжывае *паэт.* Менавіта — паэт, не зважаючы нават на свае вершы. Паэт — адносна жыцця. Натура каларытная, неадназначная, хоць па роду заняткаў сваіх, здавалася б, і заземленая.

Яшчэ на самым пачатку 90-х, будучы на "тэлевізійных агледзінах" у Міколы Купрэева ў Папялёве, што на мяжы з Белавежскай пушчай, і ўжо едучы назад, у сталіцу, з падказкі паэта зазірнулі мы ў Лінава да Папекі, як сказаў нам, даючы наводку, Купрэеў, "чалавека арыгінальнага". І — нездарма. У летнім сонечным сялянскім падворку пілі-елі мы мёд з мядніцы, страхатліва звыкаючыся з плоймай наляцеўшых на свой нароблены солад пчолаў... А пасля Мікола паказваў свае малюнкі-пейзажы, і наастатак — тое, дзеля чаго й ехалі, — сабраны ўласным досведам і сваімі рукамі краязнаўчы музей, што годам раней браўся пажарам, але ўсё ж нейкім цудам ацалеў... Было што глядзець і здымаць на тэлекамеру. Мікола быў і *героем* перадачы, і экскурсаводам, і вядучым...

Паэзія ўжо тады "візуальна" вытыркалася з усіх куткоў яго вуглаватай постаці, яго быцця і побыту. Аднак пра вершы на той час нават не ўпаміналася...

І вось нядаўна, зусім нечакана для мяне, Мікола "займеў" гэтую, даволі "гжэчна" выдадзеную ў Брэсце, кніжку, што выйшла ў серыі "Берасцейскае вогнішча". Парадуемся — і на "крэсах" жыве Беларусь!

Хацелася б зрабіць акцэнт і на аўтарскім даравальным надпісе: "Лёню Галубовічу, добра ведаючы, што табе і не**падабаецца падобная** паэзія..." Ну ці не здзек гэта з чытача, шаноўнае спадарства?! Ведаю, маўляў, што не люба табе, але ўсё адно — на!!! Чыста літаратурны жэст ці праява своеасаблівай *"віч-інфіцыраванай" паталогіі* сучасных інтэлектуалаў?..

Дык, відаць, і Мікола не без гэтага. Вось што напісаў мне ў звязку з ім Алесь Аркуш з Полацка: "Сёння атрымаў "Чарнавікі..." ад Папекі. Кніга, па шчырасці, мяне ўразіла. Яе варта было б уганараваць. Тым больш, што беларуская літаратура прагне новых імёнаў. Аднак сам Папека неяк незразумела для мяне "выславіўся", маўляў, "што да "Гліняната Вялеса", дык, магчыма, што я і траплю ў яго апаленае горла, але патрымаць яго самога за горла не вынікае вялікага жадання". Што гэта значыць — для мяне незразумела. Або дзядзька не хоча "вялесавацца", або лічыць (сябе) нявартым узнагароды. На самай справе я лічу, што "Вялес" якраз і мусіць адшукваць такіх арыгіналаў".

(Міжволі, па дурной аналогіі з расейшчынай, напрошваецца сустрэчная прэмія тыпу **антыВЯЛЕС**).

Я не ведаю, каб хто з былых савецкіх ці сённяшніх *саюзных* беларускіх пісьменнікаў і паэтаў адмовіўся ад Сталінскай, Ленінскай, Дзяржаўнай, камсамольскай ці яшчэ якой (расейскай "Трыумф", да прыкладу, якая апошніх колькі год у нас на слыху) прэміі. Ведаю толькі выпадак, калі Вольга Іпатава вярнула назад камсамольскую грамату...

Справа падчас палягае нават не так у саміх прэміях ды ўзнагародах, як у стаўленні **творцы** да дэмакратычных ідэй і грамадскіх ухілаў у сваёй дзяржаве: **альбо ён услаўляе свет, альбо свет услаўляе яго.** Іншага не дадзена.

Мікола Папека як чалавек шчыры, які ўмее і можа рабіць не толькі літаратурныя тэксты, але і многае іншае, што скрашвае і ягонае жыццё і жыццё блізкіх людзей, усё ж мае гонар і сумленне прызнаць як свае ўдачы, так і свае пралікі:

Зрэшты, вершаваныя хібы грахом не з'яўляюцца, калі яны не ганьбяць высокі чалавечы дух.

І — услед:

***Мы — язычнікі***
***ад касці,***
***ад зямлі***
***і ад неба —***
***выседжваем яйкі чужыя:***
***"Ой, прыляцела зязюля..."***

А ўсё ж пчале, як *прататыпу* чалавека працы, і мёду жыцця, як плёну той працы, у кніжцы нададзена асаблівая ўвага. Бо як піша Папека ў адным са сваіх тэкстаў (я ўсё ж не схільны ўсё ў зборніку "Чарнавікі..." лічыць менавіта вершамі ў іх класічным разуменні): "Так вялося стагоддзямі: побач пчала і чалавек, і ўдосталь мёду і воску, свечак Богу, а людзям пітва".

І калі ў вершы "Пчальнік ля Шэйпіцкай гары" паэту ўдалося выявіць вобраз жывой і вечнай прыроды яркімі паэтычнымі тропамі —

***У мядзяністых грэчак,***
***у расяністых траваў***
***вецер выцірае вымытыя твары.***
***Ярая пчаліна паляцела ў поле,***
***зранку абтрапала крыллем наваколле —***

то вось гэты, як і папярэдні працытаванаму, тэкст, я схільны не толькі назваць, але для большай нагляднасці і працытаваць як кавалак мастацкай прозы. Называецца ён "Пчальнік ля Ружанаў": "Мы едзем на трактары, ноччу, удвух з Валерам Прыступам, вязём пчаліну на медадайную агрыку, — так на ружанскай зямлі ліцвінскі люд называе грэчку. Белае поле, як сырадой, разлілося сярод пагоркаў. На небакраі, над упаўшымі ў сон Ружанамі, з'явілася чырвоная поўня".

Дарэчы, чырвоны і белы колеры, мяжуючыся, пануюць у вершаванай суверэннай аўтарскай прасторы Міколы Папекі. Колеры жыцця, і смерці, і адраджэння — адным словам, боскія фарбы вечнасці...

У сукупнасці з залацістым колерам мёду намагаюцца яны выцесніць на самы край нашага Краю "велізарныя ёмістасці, пафарбаваныя сталёваю фарбаю".

Аднак — змаганню няма канца, бо "Хрыста і антыХрыста, цара іудзейскага, зязюля падкінула ў наша гняздо"... Таму:

***На бел-чырвона-белы сцяг,***
***што ціха мроіць свой час***
***на гарышчы,***
***села начаваць***
***бел-чорна-белая ластаўка.***

І ці не адсюль, ад роспачы і тугі непамыснай, прарываецца раптам аўтарскае маленне-пакланенне жывой прыродзе, а не паганскім спаленым стодзівам Перуна і Дажджбога і ўтопленым — Ярылы і Хорса:

***Чорны бусел,***
***чорны бусел-белагруд,***
***памажы ты Беларусі,***
***будзь жа тут,***
***дзе даўно ўжо***
***жаўталотаць не расце,***
***белы бусел***
***не клякоча на страсе.***

Пакуль — у зняверанага і дарэшты стомленага — не выспее на вуснах вусцішнае трохрадкоўе ў стылі Басё:

***Я на калені па́даю***
***перад табою,***
***духмяная сунічка.***

Безумоўна, паэт разумее, што яму недастаткова ўласнай шчырасці, душэўнай чысціні і сумлення, каб гэтыя светлыя чыннікі чалавечага жыцця сталі паўнавартаснымі для таго грамадства, у якім яму наканавана жыць. Таму, ад нябачнай людзям і свету ўнутранай барацьбы за сябе, за сваё чалавечае "эга", ён адважваецца і на **непапулярныя дзеянні**, як гэта прынята заяўляць у **афіцыйных сферах**:

намагаецца вярнуцца да сваіх вытокаў, і яму даводзіцца плысці насупраць цячэння. Але ён плыве, бо заўчасна ўсведамляе, што нават і ТАМ, пасля смерці:

***Апошняй абразай мне стане***
***камень, пастаўлены нада мною,***
***з надпісам на расейскай мове...***

Вось так — незаўважна — мы й пераходзім мяжу: ад жывога — да мёртвага... Падобнае здараецца і ў літаратуры, на вялікі жаль. Ёсць яно і ў згаданай кніжцы Міколы Папекі. На маё разуменне, трэцяя, заключная яе частка нагадвае нейкую своеасаблівую лабараторыю ці палігон, дзе адбываецца практыкум вершаскладальніка. Праўда, трэба аддаць належнае аўтару, практыкуецца ён у складаных рэчах, адышоўшы ад традыцыйнасці і замшэлага кансерватызму.

Тут і філасофія знакаў, і дзіцячыя вершы, і пераклады. Аднак жа, практыка практыкай, але ці трэба **тое** выносіць на людзі, як, скажам, майстру па вырабе музычных інструментаў — разам са скрыпкай і стружку, што засталася пасля адмысловай работы?!

Таму, па парадку пра тое, што мяне найбольш засмуціла.

Дзіцячыя вершы патрабуюць ярчэйшага глянцу, больш тонкай і датклівай апрацоўкі, пазбаўлення візуальнай і ўнутранай шурпатасці...

Відаць, наўмысна і дзеля непрыхаванага спаборніцтва з прызнаным майстрам, пераклаў на свой, як піша Купрэеў "папекаўскі лад", ён і тыя вершы "паэта Зямшара" Веліміра Хлебнікава, якія раней пераклаў сам Алесь Разанаў.

І ўсё ж найбольшае раздражненне выклікалі ў мяне чатыры чыста эксперыментальныя тэксты, звязаныя з богам РА і адпаведным філасофска-рэлігійным вучэннем. Семантыка-марфалагічная гульня ў філасофію з прывязкай да сучаснага грамадскага жыцця і ўласнага светапогляду аўтара.

***Напэўна, прыкладаў досыць, наперадзе***
***З РА ў мяне не адна шчэ сустрэча...***
***Чую няўмольны немінучы РЭквіем...***
***І РЭчытатыў мой, на жаль,***
***так і не пралунае бадзёрым рэхам,***
***як вершаказы РА...***
***І буду я заРэзаны як паэт***
***цэнзарам і Рэцэнзентам —***
***сябрам яго і знаёмым.***
***<u>ПраРЭгатыва</u> не за мной — а за ім...***

Дасведчаны чытач, пэўна, улавіў тут празрыстыя намёкі... Я асабіста памятаю, што ўсё гэта пісалася калісь як бы наўздагон прапанаванай часопісу "Крыніца" нізкі вершаў, якія пасля і былі (з пэўнай доляй карэкціроўкі) там надрукаваныя і ўжо менавіта ў такім выглядзе ўвайшлі ў гэтую кніжку. Ну, а што да вышэйпрыведзенай цытаты, то аўтар, відаць, прадчуваючы іранічную неўразумеласць не толькі з боку РА (Разанава) і РЭ (Галубовіча), але і свайго чытача ўвогуле, сам, як той Тарас Бульба, вырашае лёс сваіх "дзяцей":

***Зрэшты, гэтае вар'яцтва***
***напісаў Папека.***

А што канкрэтна да паэзіі, то Папека — паэт **жывы** і неардынарны. У яго — свой голас, свая інтанацыя, свой жэст, свой погляд на рэчы і рэчаіснасць — і, як вынік, свой паэтычны СВЕТ. І ані знаку правінцыйнай закамплексаванасці, як тое нярэдка яшчэ здараецца ў нашым літаратурным жыцці: **ну, калі што трохі не так, то вы ўжо там, сталічныя й адукаваныя, прабачце мне, калі ласка, і надрукуйце як-небудзь, бо я ж, самі бачыце, з самай глухой вёскі ў Глускім раёне...**

Не, у Папекі — высокі чалавечы гонар і за сябе, і за сваю бацькаўшчыну, і за дзяцей сваіх, і за словы свае...

•

*Стыне гарачага лета след.*
*Зябкі, па-веснавому вясёлы*
*З яблынь зімы аблятае цвет.*

•

*Голас хоча сцяць цесната.*
*І сціняецца між зямлёй і небам*
*Рэха круглае, як сірата.*

•

*Са снежнага зерня рунее белы спакой.*
*І гэтак лагода нябесная блізка,*
*Што льга далягляд палашчыць рукой.*

•

*Слова мае свой смак і пах.*
*На губах успыхвае слова,*
*Каб пагаснуць яму на губах.*

•

*Парыву жарсці не шкада.*
*Яно й халодным пацалункам*
*Працалавала лёд вада.*

•

*Толькі ў мамы*
*Самы суровы дакор*
*І пяшчотнейшы самы.*

•

*Трэба сад падразаць і бяліць.*
*Вывіхнутая галінка-дачушка*
*Дрэву, яшчэ жывому, баліць.*

•

*Пень стахлы і атожылак тугі —*
*Жывая дыялектыка спрадвечча,*
*Маўклівы сказ працягу і тугі.*

•

*І старац зношаны і маладзён,*
*Ніхто і не падумае, што зрэшты*
*Ён — саркафаг сваіх пражытых дзён.*

•

*У халадоў мяняецца аблічча.*
*Сама ў сябе хаваецца зіма,*
*Пакуль яе ручай не заказыча.*

•

*Скон — нечаканы й чаканы плён.*
*Чалавек — гадзіннік, які не ведае,*
*На колькі Ўсявышнім заведзены ён.*

•

*Цень недзе там у Тураўлі, ў Цётчы.*
*І агеньчыкамі заснежаных хутароў*
*Дагараюць, старэючы, вочы...*

•

*Я цяпер, як апошні колас.*
*З самых родных яшчэ засталіся*
*Бацька Бог ды ад мамы Голас.*

---

*Ах, як я нязграбна прыладзіў латок,*
*І млее мой дзень у сцюдзёным зацішку.*
*Зялёным намёкам глядзіць лісток*
*З набухлай і хмурай, як рана, пупышкі.*

*Зрабі ты, як бацька калісьці вучыў,*
*Схадзі да тае, у святле, на паляну.*
*І недзе ля самага пня падсячы,*
*І сам жа пасля залячы тую рану.*

*Зацягнецца рана салодкай зарой,*
*Бяростаю лета яе забінтуе.*
*Ты пі колькі хочаш з бярозы старой,*
*Але пашкадуй, абыдзі маладую.*

*Нахлынула зімаў чужых сівізна.*
*Няўжо мы з табой іх наклікалі самі?*
*Салодкія вёсны пабеглі ад нас,*
*Пабеглі, сцяклі ў небыццё ручаямі.*

*Час глумнай сякерай сячэ карані,*
*Знямоглым вандроўцам па свеце іду я.*
*Знямогламу хоць бы глыток дабрыні.*
*Няўжо яго хто мне калі пашкадуе?*

*Напояў з хлусні я даўно паспытаў,*
*Па самай высокай жыццёвае мерцы.*
*А ў кубку на донцы адна гарката.*
*І гэтак жа горка на сэрцы.*

## Світае

*Яшчэ павекі морыць сон,*
*Яшчэ варожыць нешта ён.*
*О, звабная хвіліна тая —*
*Світа-е-е!*

*Крыло настылае, ляці.*
*Успыхне,*
*Ясна затрымціць*
*Смалы іскрынка залатая.*
*Світа-е-е!*

*Цячэ свяжак за ручніком,*
*Плыве туман над азярком*
*І тае.*
*Світа-е-е!*

*Плыве расінка па лісце,*
*І рошчына ў дзяжы расце,*
*І вырастае.*
*Світа-е-е!*

*Абдыме мама саганок*
*І "Што ты сёння сніў, сынок", —*
*Спытае.*
*Світа-е-е!*

*І хай ж вечна цешыць слых,*
*Ля ўнучкаў лашчыцца маіх*
*Узгадка тая:*
*Світа-е-е!*

ПРОЗА

Дзяніслаў НІЧЫПАРОВІЧ



# ЦЮЦЬКА

АПАВЯДАННЕ

Калі б у Антона ці Лявона спыталі, чым знакаміты адна тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят першы год, ім нават у галаву не прыйшло б, што ён увайшоў у летапіс зямной цывілізацыі як пачатак пранікнення чалавека ў космас. Што ім да таго? У іх - свой летапіс. Тым памятным дажджлівым летам шэсцьдзесят першага яны, Антон і Лявон, атрымалі кватэры ў адным доме і на адным паверсе. Тады ж і пазнаёміліся. У дадатак аказалася, што абодва яны — і своеасаблівыя цёзкі. Цёзкі па бацьках: абодва — Адамавічы. Гэтая апошняя акалічнасць найбольш, напэўна, і зблізіла іх, хоць і забаўляла.

"Здароў, Антон Адамавіч!" — з ветлівай усмешкай на адкрытым прасцяцкім твары вітаў суседа на лесвічнай пляцоўцы дружбацкі Лявон. "Прывітанне, Лявон Адамавіч!" — адгукаўся не надта гаваркі Антон, і ягонае насупленае аблічча расплывалася ў абыходлівай ухмылцы.

Увечары, сутыкнуўшыся ля пад'езда пасля работы, яны вытрэсвалі з кішэняў апошнія капейкі, куплялі ўскладчыну пляшку "чарніла" (з палучкі адшкадоўвалі на белую), спускаліся ў лёх пад домам і там, воддаль жончыных вачэй, няспешна яе апаражнялі. Антон Адамавіч пасля гэтага закурваў "Прыму", дадаючы да лёгкага хмяльку тытунёвы чад, мякчэў, губляў сваю замкнёнасць і насцярожанасць, шчырэў. Утаропіўшыся вузкімі шэрымі, з жоўтымі крапінкамі вачыма ў субяседніка, дзяліўся шчасцем:

— Сёння паслалі сёмую цепламагістраль агледзець, то дваццаць бутэлек у кустах сабраў!

— Э, не-е, я бутэлек не збіраю. Мы ў гальваніцы заўсёды на кроплю-другую саб'ём, — зморшчыўшыся, дзяліўся сваім Лявон Адамавіч. Ён не курыць і брыдзіцца казытлівага тытунёвага дыму, але па-суседску ды яшчэ ад цёзкі па бацьку мусіць трываць.

На гэтай бутэльцы іхнія далейшыя шляхі-дарогі марнавання вольнага часу разыходзіліся. Лявон Адамавіч больш не піў, ад прапановы Антона Адамавіча скласціся яшчэ на адну пляшку адмаўляўся, усаджваўся на лаўцы ў дваровым скверыку, падстаўляў пасярэбраную, з лысінай на макаўцы, галаву сонцу і аддаваўся пакутліва-шчымлівым успамінам аб юнацкай няздзейсненай мары стаць садоўнікам, вывесці незвычайныя — кілаграмовыя, трывалыя да марозу, залатыя на выгляд і мядовыя на смак яблыкі і накарміць імі ўсіх беларусаў. Прыгадваў атуленую сцяной ельніка родную вёску пры пыльным гасцінцы, з адной-адзінай студняй сярод вулкі на дваццаць хат, з занядбаным, калісьці панскім, садам і скасабочанай стадолай пры ім, пад застрэшшамі якой было процьма ластаўчыных гнёздаў, з парослай чаротам сажалкай — гусіным раздоллем — ля роднае хаты.Ажывалі ў памяці сцюдзёныя расістыя ранкі, гарластыя пеўні, грыбныя пахі, мяккі дыван апалага лісця па лясных ярах, аскомістыя касцяніцы, начныя вогнішчы, конскае ржанне, куванне зязюлі... Тады Лявон Адамавіч скрыгатаў зубамі, клаў руку на сэрца і з набеглымі на вочы слязьмі пхнуўся ў краму, браў пляшку, але не ішоў да цёзкі, а дадому. Там самнасам лячыў чаркай развярэджаную ўспамінам душу...

Антон Адамавіч таксама любіў пасядзець на лаўцы ў скверыку, але пускаць сліну і расчульвацца ад успамінаў пра вясковыя ранкі ды зязюліны куванні не ўмеў. Галава яго была занята іншым: ён прагнуў глынуць яшчэ, прытым не за свае крэўныя— іх не было, а за чужыя. Таму часцей аблюбоўваў ён тую лаўку, што бліжэй да крамы, каб усе, хто выходзіць адтуль з пляшкаю, пабачылі яго ды прыгадалі, што ў яго ёсць ціхае, утульнае месца, дзе можна выпіць і пагаманіць. Разлік быў правільны. Аматараў падвальнай экзотыкі хапала. І Антону Адамавічу, як гаспадару прытулка, перападала, як кажуць, чарка і скварка, хоць апошнім часам гэта была не скварка, а скарынка хлеба ці крохкая, як з пясочку, пячэніна. Чарак збіралася ладнавата, і дадому, на свой пяты паверх, Антона Адамавіча трэба было падпіхваць.

Ішлі гады, мянялася ўлада, кіраўнікі, нават дзяржаўны лад. Шчаслівы гонар за свае двухпакаёўкі ў Адамавічаў даўно прытух. У горадзе набудавалі процьму дамоў з куды больш зручнымі кватэрамі. "Хрушчоўкі!"— як аплявуха, прагучала крыўдная, абразлівая мянушка. "Мяняю сучасную двухпакаёўку ў Фарынаве на раўнацэнную ў цэнтры. Хрушчоўкі не прапаноўваць!.."

— Падавай ім усё паасобнае!— абураўся Лявон Адамавіч.— Самі не ведаюць, чаго хочуць! Ванна і ўмывальнік якраз павінны быць побач з унітазам: зрабіў, што трэба, вада перад табою — карыстайся! Не-е, няма ўтульней нашых хрушчовак! Пако-оі сумежныя? То гэта ж добра — заўсёды побач з жонкаю! А малая кухня — не бяды! Танцаваць у ёй ці што? Кухня дзеля таго, каб у ёй гатаваць ежу, а не есці! Есці трэба ў гасцёўні! Паны ніколі на кухні не елі!.. — яхіднічаў Лявон Адамавіч перад Антонам Адамавічам у тым жа абжытым, амаль родным сутарэнні.

— Мы не паны, але сёе-тое разумеем! — падтакваў яму, папыхваючы цыгарэтай, Антон Адамавіч.

Час наклаў свой адбітак на іхнія абліччы. Лявон Адамавіч пацямнеў тварам, круглая лысіна на макаўцы павялічылася, постаць як бы ссутулілася. Антон жа Адамавіч, на першы погляд, бадай і не змяніўся, адно што пысаю стаў яшчэ больш падобны да бульдога. А ў астатнім якія былі, такія і засталіся. І не было таго дня, каб яны абышліся без застолля ў сутарэнні. Антону Адамавічу ўжо не трэба крадком, у рабочы час, збіраць бутэлькі — ён на пенсіі і п'е толькі на халяву. Лявон Адамавіч таксама пенсіянер, аднак яшчэ працуе ў сваёй прыбытковай гальваніцы і па-ранейшаму пасля сваіх шчымлівых успамінаў плача.

Але не ўсё ў іх, як гэта здаецца, ціха і гладка. Між імі, наперакор даўняй непарушнай дружбе, прабег з некатарага часу чорны кот. Няма чаго здзіўляцца: жыццё — справа далікатная, і калі адзін доўгі час цягне, а другі толькі едзе, то той, каторы цягне, мае права абурыцца. Мо раней, у пару развітога сацыялізму, на гэткія дробязі Лявон Адамавіч і не звярнуў бы ўвагі, але цяпер, калі вось-вось пакладзеш зубы на паліцу, кожная драбніца ўлічваецца. Ды і як не ўлічыць, калі чалавек з кожным днём становіцца ўсё больш і больш нахабным: паслаў яго пляшку прынесці — на рэшту без дазволу купіў сабе цыгарэт; адправіў здаць бутэлькі — утаіў выручку, сказаўшы, што пяць штук не ўзялі; сядуць выпіць, дык так і глядзіць, каб наліць сабе болей. Ды колькі ж можна цярпець!.. А тут яшчэ...

Да двара прыбіўся згублены, а мо кімсьці выкінуты блакітна-шэры, касматы аж да бліскуча-чорных вачэй, дагледжаны сабачка: ужо трохі здзічэлы, ціхі, рахманы, сумны. Жыхароў нясмела вітаў памахваннем хваста, аднак блізка не падыходзіў: баяўся.

— Цю-цю-цю-цю-цю! — прываблівaў яго штыглікам сала Лявон Адамавіч.

Сабачка, пускаючы сліну і вытанцоўваючы на месцы, намагаўся падысці, але ж не асмельваўся.

— Як жа моцна цябе пакрыўдзілі, небарака!.. — дрыготкім голасам пашкадаваў Лявон Адамавіч і асцярожна, без рэзкіх рухаў, стаў набліжацца да недаверлівага сабачкі: — Цю-цю-цю-цю-ю, не бойся, дурненькі!..

У рэшце рэшт пяшчота кранула сабачае сэрца: падпоўз да чалавека, устаў перад ім на заднія лапы, абнюхаў пачастунак, далікатна зняў яго з рукі і стаў сілкавацца.

З той пары паміж Лявонам Адамавічам і сабачкам распачалося чулліваe сяброўства. Трэба было бачыць, як пад вечар сабачанё пачынала непакоіцца, бегаць, пырхаючы, ля пад'езда, нюхаць зямлю, паглядаць у той бок, адкуль меўся паказацца ягоны сябар, рукі якога гэтак смачна пахнуць піражкамі з мясам і карамелькамі, а ў складках вопраткі якога захоўваецца пах лесу.

Лявон Адамавіч, убачыўшы, як імкліва нясецца насустрач яму шчаслівы сабачка, радасна раскідваў да яго рукі, падхопліваў, прыціскаў, як дзіця, да грудзей.

Нечспадзявана сабачка стаўся для яго той блізкай істотай, да якой можна звярнуцца як у хвіліну душэўнага ўздыму, так і ў часіну душэўнага заняпаду, і неяк непрыкметна, сама па сабе, адпала патрэба заходзіць з Антонам Адамавічам у сутарэнне. Пяшчотна пагладжваючы сабачку, ён па-ранейшаму аддаваўся шчымлівым успамінам пра вёску, родны бацькоўскі кут, і не мог утрымацца ад смеху, калі прыпамінаў, як у час касавіцы вялікі паджары лось з лёгкім абвіслым азадкам і разлапістымі рагамі ўнадзіўся падкрадацца і з'ядаць хлеб, які ён з бацькам пакідаў на абед у лугавым лазняку, і як яны гэтага нахабніка высачылі, падпільнавалі і напалохалі...

Сабачка аказаўся дзікаватым і натурыстым: як ні стараўся Лявон Адамавіч завесці яго нанач дадому, ён не даваўся, раптоўна кудысь знікаў, каб з першымі промнямі сонца быць ужо ў двары і жыццярадасным цяўканнем апавяшчаць, што ён ужо тут.

— Спа-аць не дае! Атру-учу! — ашчарэпліваючы хворую з пахмелля галаву, немачна злаваў Антон Адамавіч. Аб сапраўднай сваёй нелюбові да сабачкі — гэта ж ён адвадзіў ад яго суседа — не хацеў думаць...

Надзіва спякотнае лета было ў самым разгары. Над горадам стаяла зыбкая залацiста-сінявaтая смуга, паветра трымцела, пералівалася, скажала нябесныя адлегласці. Пахла гарачым пяском, завялай травою, высмаглай глебай. Парывісты вецер матляў галіны дрэў, прыгінаў кусты, але ад спёкі не ратаваў — усім было горача.

Разгарачаны і стомлены цісканінаю, Лявон Адамавіч ледзь выбраўся з аўтобуса. Атрос пазадзіраныя калашыны светлых штаноў, паправіў на сабе перакручаную сінюю тэніску. Скіраваў быў да ларка асвяжыцца халодным півам, але перадумаў — абыдзецца. Прыспешыў крок — хацелася хутчэй пабачыцца з сабачкам. Цёпла ўсміхаючыся ў чаканні, як ён радасна кінецца яму пад ногі, зайшоў у двор і... спыніўся ў нерашучасці: сабачкі, надзіва, не было. "Загуляўся, шэльма!..." Нахіліўшы галаву, стаў выглядаць яго пад лаўкамі пад'ездаў. Сонца ўжо пайшло з двара, цені пад кустамі і лаўкамі перашкаджалі яму добра бачыць.

Раптам да яго падбеглі дзеці — чарнявы хлопчык у зялёных трусіках і рыжая дзяўчынка ў лёгкай белай сукеначцы:

— Дзе-ед, ваш саба-ачка захварэ-эў.

Устрывожаны Лявон Адамавіч пусціўся за дзецьмі і ўбачыў сумную карціну: на зямлі, пад кустамі бэзу, з патухлымі вачыма нерухома ляжаў ягоны пястун.

— Што з табою, га? — схінуўся над сабачанём Лявон Адамавіч, зазірнуў яму ў вочы. Убачыў у іх слабы, ледзь прыкметны тужлівы агеньчык. Абрадаваўся, паставіў сабачку на ногі, але той, канвульсіўна здрыгануўшыся ўсім лядашчым целам, слепа торкнуўся галавою ў Лявонавы ногі, а потым раптам асунуўся на зямлю і спруцянеў.

Па твары Лявона Адамавіча самохаць пабеглі слёзы.

— Ідзіце, дзеткі, адсюль, не трэба вам тут стаяць, — сказаў ён перапалоханым дзецям і стаў думаць, як пахаваць нябогу...

Антон Адамавіч крадком назіраў за суседам з балкона. Улучыўшы зручны момант, спусціўся долу, падсунуўся да яго, ялейным голасам загаварыў:

— Чуў, жалоба ў цябе, Лявон Адамавіч? З гора трэба б было пахмяліцца...

— Пайшо-оў прэ-эч! — узарваўся Лявон Адамавіч і заламаў дадому...

## У вянок памяці вучонага

**Кнігі, выдадзеныя выдавецтвам “Тэхналогія”, заўсёды карыстаюцца попытам. Гэтыя выданні адрозніваюцца не толькі высокім узроўнем рэдакцыйна-выдавецкай падрыхтоўкі, але і добрай паліграфіяй. Дзякуючы выдавецтву “Тэхналогія” на паліцах кнігарань у мінулым годзе і ў першым квартале 2000-га з'явіліся “Aurea mediocritas” Івана Саверчанкі,**



**“Дойлідства” Аляксандра Лакоткі, “Зайгралі спадчынныя куранты” Віктара Скорабагатава, “Праўдаыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч” Міхася Чарняўскага — кнігі сваёй тэмай скіраваныя на выхаванне гістарычнай памяці, духоўнасці і культуры ў грамадстве.**

**Нядаўна ў выдавецтве “Тэхналогія” пабачыла свет новая кніга “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі”, выдадзеная да 100-годдзя з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага, яна выйшла тыражом 500 экземпляраў пры фінансавай падтрымцы Беларускага Рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў і Аддзялення хімічных навук і навук аб зямлі НАН Беларусі. Кнігу склалі ўспаміны пра Г. Гарэцкага, вершы, прысвечаныя яму, архіўныя матэрыялы, вытрымкі з лістоў і тэлеграм, бібліяграфія апублікаваных твораў вучонага.**

**У прадмове да кнігі яе ўкладальнік акадэмік Радзім Гарэцкі напісаў: “Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі пакінуў вялікую спадчыну, яго след прыкметны ў многіх галінах навукі. Ён пакінуў цікавыя працы па археалогіі, этнаграфіі, мовазнаўстве, літаратуразнаўстве. Яго спадчына патрабуе новых даследчыкаў. Спадзяюся, што гэтая кніга стане першай цаглінкай у падмурак такога вывучэння, першай кветкай у вянок памяці вучонага і грамадзяніна — адданага сына сваёй бацькаўшчыны, сваёй маці-Беларусі”.**

**Кніга “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі” адрасавана ўсім, хто цікавіцца літаратурай, мовазнаўствам, хто працуе ў галіне геалогіі і ўсім, хто імкнецца ведаць гісторыю роднага краю.**

**Р. АЛЕНІНА**

## Невядомы ў Беларусі літаратар

**Так і застаўся без адказу мой ліст, адрасаваны ў Ялту на вуліцу Карла Маркса, дом 13 а, кватэра 31. Украінская пошта паведаміла аб прычыне вяртання: “Беляев И. С. умер...”**

**А хацелася адкрыць і для Беларусі яшчэ адно імя, імя руплівага прыгожага пісьменства. Застаецца паведаміць тое, што пакуль сёння вядома. Ігната Сцяпанавіча Бляева ведаюць на Украіне як пісьменніка Гната Бляева. А нарадзіўся ён у вёсцы Тамашы Гарадоцкага раёна — 11 ліпеня 1918 года. У сям'і селяніна-бедняка. У 1942 годзе закончыў Пяцігорскі педагагічны інстытут. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. З 1946 — на журналісцкай рабоце. Загадваў аддзелам культуры газеты “Советский Крым”.**

**У літаратурным плане выявіў сябе як паэт-сатырык, гумарыст. Аўтар кніг на рускай мове — “Медвежья чуткость” (1959), “Кочующий трубач” (1964), “Смехом по помехам” (1967), “Смехотерапия” (1971). Перакладаў з украінскай і беларускай моў. Вось , лічы, і ўсё. Мо хто ведае болей пра нашага земляка з Віцебшчыны?**

**Алесь ГЛУШКА**

## “ЛіМ”-ФОТА



“Леты маладыя...”

*Злева направа: Уладзімір Караткевіч, яго жонка Валянціна, Юрый Цвяткоў.*

Фота з архіва.

ВІНШУЕМ!

# На ніве пабрацімства

### Уладзіміру САКАЛОЎСКАМУ — 70

Уладзімір Сакалоўскі родам з вёскі Мяльканавічы Слонімскага раёна. У 1949 годзе скончыў Азярніцкую сярэднюю школу і паступіў у Гродзенскі педагагічны інстытут на факультэт замежных моў. Пасля атрымання ў 1953 годзе дыплома аб вышэйшай адукацыі працаваў настаўнікам нямецкай мовы ў Мастоўскай сярэдняй школе, дырэктарам Зяльвянскай і Лупачскай васьмігадовых, Азёркаўскай сярэдняй школ, Мастоўскай школы-інтэрната. У 1962 годзе У. Сакалоўскага накіравалі ў ГДР, дзе да 1969 года з'яўляўся перакладчыкам. Быў дацэнтам і загадчыкам кафедры рускай мовы па рабоце з замежнымі студэнтамі ў адной з ВНУ г. Рыгі, выкладаў нямецкую мову ў рыжскім інстытуце інжынераў грамадскай авіяцыі (1971—1978), працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, з 1991-га — у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны.

У 1977 годзе У. Сакалоўскі абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме “Беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі перыяду Веймарскай рэспублікі”. Першай публікацыяй у друку стала рэцэнзія “Беларускае апавяданне на нямецкай мове”, змешчаная ў часопісе “Полымя” ў трэцім нумары за 1972 год. Артыкулы, рэцэнзіі У. Сакалоўскага публікаваліся ў “Весцях АН Беларусі”, часопісах “Полымя”, “Народная асвета”, “Беларуская мова і літаратура ў школе” (цяпер “Роднае слова”) і іншых перыядычных выданнях. У цэнтры ўвагі даследчыцкіх памкненняў У. Сакалоўскага распаўсюджванне беларускай літаратуры за мяжой. У 1986 годзе выдаў кнігу “Пара сталення. Вопыт параўнальнага вывучэння беларускай і некаторых класічных зарубежных літаратур”. Аўтар манаграфіі “Беларуская літаратура ў ГДР” (1988) і ў сааўтарстве “Беларуская савецкая літаратура за мяжой” (таксама 1988).

Віншуем Уладзіміра Лявонцьевіча з 70-годдзем! Зычым яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і даследчыцкім страі!

ВЕЧАРЫНЫ

# У гонар “прынца паэтаў”

У Доме дружбы адбылася вечарына ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння бельгійскага класіка Марыса Карэма. У 1975 г. Парыжская акадэмія мастацтваў надала яму званне “прынц паэтаў” (за стагоддзе толькі трое мелі гонар атрымаць гэтае рамантычнае званне). Карэм больш вядомы як дзіцячы паэт.

На вечарыне выступілі дырэктар Інстытута літаратуры, крытык У. Гніламёдаў, доктар філасофіі В. Салееў. Са словам пра паэта выступіў і вядучы — паэт Л. Драньмо-Майсюк. Вершы бельгійца чытала знакамітая актрыса Т. Мархель.

Увогуле ж імпрэза была падрыхтавана таварыствам Беларусь — Бельгія, а навучэнцы гімназіі N 8 г. Мінска пад кіраўніцтвам выкладчыцы С. Марынчык пераклалі вершы М. Карэма на беларускую. Ансамбль скрыпачоў выканаў творы еўрапейскіх кампазітараў. Удзельнікі пагледзелі дакументальны фільм “14 хвілін пра Бельгію”. Усім дзецям былі падараваны кніжкі беларускіх пісьменнікаў — Н. Арсенневай, У. Арлова і іншых.

З біяграфіі Марыса Карэма (1899—1978).

Нарадзіўся ў сям'і маляра, усё жыццё адпрацаваў настаўнікам малодшых класаў у правінцыі Брабант. Пісаў вершы, паэмы і раманы на рэлігійныя і філасофскія тэмы. Мае 13 міжнародных узнагарод, што дапамаглі яму адкрыць яшчэ пры жыцці фонд дапамогі маладым пісьменнікам. Пасля смерці паэта быў адкрыты музей яго імя ў Брусэлі (ім кіруе мадам Ж. Берні, якая прыслала ў таварыства Беларусь — Бельгія некалькі кніжак пісьменніка, фотаздымкі і аўдыёкасету).

Паэт перажыў дзве сусветныя вайны, быў сведкам знішчэння горада Іпрыт, дзе ўпершыню быў ужыты атрутны газ. У яго на вачах быў узарваны бацькоўскі дом. Невыпадкова тэма вайны так выразна гучыць у творчасці Марыса Карэма.

**Тамара АНТАНОВІЧ**



Марыс КАРЭМ

## Ваенныя могілкі

*Колькі тут мёртвых для беднай травы,*
*Колькі крыжоў для птушкі адной!*
*Над імі — дубы*
*(кожны дуб — вартавы)*
*У неба з пагардлівай вышынёй.*

*Праходзіць паблізу статак кароў,*
*Іх, абыякавых, пасвіць дзень.*
*Не ўбачыць салдату зялёных бароў!*
*Імя на жалезе, як чэзлы цень...*

*Усё тут спакойна, ніякіх падзей.*
*Не ведаю сам:*
*і чаго я прыйшоў?*
*Стаю анямелы ля чорных крыжоў.*
*Навошта загінула*
*столькі людзей?*

## Драўляныя ногі

*Калі маеш драўляныя ногі —*
*Не памчышся!*
*Пры чым тут жаданне?*
*Так гавораць салдаты*
*з трывогай —*
*Абаронцы усіх панаванняў.*

*Праўду кажуць:*
*калі давядзецца*
*Пасадзіць сад вішнёвы ў зацішшы, —*
*Можна потым, хоць з кожнага дрэўца,*
*Зняць у ліпені некалькі вішань.*

*А калі пасадзіць дзеравякі —*
*Ногі з войнаў, што грукалі ўсюды,*
*Мог бы вырасці лес аж пад хмаркі,*
*Дзе і птушкі, і папараць-цуда...*

*Толькі б слёз не хапіла ні ў кога —*
*Арасіць хоць бы ўзгорак у полі.*
*І не могуць драўляныя ногі*
*Прарасці без карэння ніколі.*

Пераклад з французскай Эдзі АГНЯЦВЕТ

МЕРКАВАННЕ

# Каб уваскрэснуць зноў

## СЛОВА Ў АБАРОНУ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

У апошнія гады асобныя "наватары" даволі актыўна выступаюць у друку з моўнымі папраўкамі разнастайнага характару, адкідваюць шматлікія словы, выразы, сінтаксічныя канструкцыі, якія трывала прыжыліся ў маўленні, замацаваліся моўнай практыкай, сталі прывычнымі, усведамляюцца як правільныя, нарматыўныя. А пачалося гэта, бадай, ці не з перакладнога даведніка З. Санько "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем". Ён выйшаў у 1991 г. (выдавецтва "Навука і тэхніка"). Пра хібы гэтага даведніка мне ўжо даводзілася пісаць у "Весцях АН Беларусі" (1993, N 1). Варта паўтарыць некаторыя моманты, звязаныя з падачай толькі фразеалагізмаў.

Складальнік слоўніка пры падборы фразеалагічных адпаведнікаў не размяжоўвае агульнанародныя, літаратурныя і вузкамясцовыя, дыялектныя выразы. Ён бярэ фразеалагічны матэрыял не з картатэкі, якая шматлікімі прыкладамі пацвярджае жыццё пэўнага выразу ў мове, і не з нарматыўных слоўнікаў, а, як сказана ў прадмове, з запісаў фалькларыстаў, часткова з мастацкай літаратуры, а таксама "ад сваіх бацькоў", і не зважае на тое, ці мае гэты выраз устойлівасць і ўзнаўляльнасць на агульнамоўным узроўні. З прыкладна 870 фразеалагізмаў, вынесеных у загалоўкі, не менш як чацвёртая частка прыпадае на выразы, якім складальнік беспадстаўна надае статус рускага першародства. Адпаведна адмаўляецца існаванне аднолькавага ці блізкага гучаннем беларускага фразеалагізма. Напрыклад, няма ніякіх падстаў не лічыць беларускімі такія фразеалагізмы: аршын з шапкаю, без задніх ног, як снег на галаву, валіцца з ног, у добры час, узяць за жабры, віляць хвастом, віць вяроўкі, ганяцца за двума зайцамі, даць дуба, жаваць жвачку, задзіраць нос, ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі...

Нельга выкідаць з мовы тое, што усталявалася ў ёй, ужыванне чаго можа быць падмацавана дзесяткамі апраўдальных цытат і не парушае нашых моўных законаў. Тое, што, напрыклад, выразы *ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі* даўным-даўно сталі нарматыўнымі адзінкамі беларускай літаратурнай мовы, я мог бы пацвердзіць больш як 70 ілюстрацыйнымі прыкладамі. Так, В. Дунін-Марцінкевіч аж 4 разы выкарыстаў фразеалагізм *памінай як звалі*, у тым ліку ў вершаванай аповесці "Халімон на каранацыі": "Я хваць за талакно! Памінай як звалі!"

Выразы *ні рыба ні мяса, памінай як звалі* занатавалі як народныя Я. Чачот, І. Насовіч, М. Федароўскі. Гэтыя фразеалагізмы, а таксама *мець зуб* даюцца ў нашых акадэмічных слоўніках — тлумачальным, беларуска-рускім, руска-беларускім. Дарэчы, выраз *ні рыба ні мяса* трапіў у беларускую мову як калька з нямецкай мовы, дзе склаўся ў перыяд Рэфармацыі (XVI ст.), а выраз *мець зуб* — калька з французскай мовы. Гэтыя фразеалагізмы, як і сотні іншых, сталі міжнароднымі. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца толькі гучаннем, кампанентным складам, а ў роднасных мовах супадаюць і гучаннем.

Як паказалі даследаванні Э. Саладухі і Ю. Саладуба, у любой развітой літаратурнай мове больш як трэцяя частка ўсяго фразеалагічнага фонду прыпадае на калькі і паўкалькі. Пераафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы. Вось толькі некалькі прыкладаў скалькаваных выразаў: *божая кароўка, вадзіць за нос, востры на язык* — з французскай, *браць быка за рогі* — з іспанскай, *асінае гняздо* — з англійскай, *скура ды косці* — з лацінскай, *ні богу свечка ні чорту качарга* — з польскай мовы.

У слоўніку З. Санько вельмі многія з падобных скалькаваных фразеалагізмаў (напрыклад, *делать из мухи слона* — з грэчаскай, *как на иголках* — з нямецкай, *на седьмом небе* — з французскай мовы) прызнаюцца, відаць, як рускія, і аўтар падбірае да іх беларускія адпаведнікі, хоць на самай справе такія выразы павінны перакладацца паслоўна.

Спынімся яшчэ толькі на двух выразах. Ёсць у беларускай мове фразеалагізм *у імгненне вока*, зафіксаваны ўсім нашымі слоўнікамі. Ён ужываўся ў нас яшчэ ў XVI ст., напрыклад, у "Катэхізісе" С. Буднага, і, магчыма, трапіў у рускую мову *(в мгновение ока)* як паўкалька з беларускай. У слоўніку ж З. Санько мы гэтага фразеалагізма не знойдзем, тут даецца *в мгновение ока* з такімі аналагамі: вокам маргнуць, як змаргнуць, на вокамгненні, як у воку мгненне, як га.

У Я. Купалы ёсць верш "Не ўсе дома", дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня камедыі "Паўлінка" гаворыць: "У Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат". Не цураліся агульнавядомага выразу *не ўсе дома* К. Крапіва, Р. Мурашка, І. Мележ і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, украінскай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове зафіксаваны ўжо ў XVI ст. У слоўніку ж З. Санько выраз *не все дома* кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор беларускіх эквівалентаў, сярод якіх, зразумела, няма *не ўсе дома*. Выходзіць, і Я. Купала памыляўся, калькаваў фразеалагізмы, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Пра гэты небяспечны даведнік (а ён выдадзены значным тыражом — 30 тысяч экземпляраў!) часам пішуць, што "хоць зроблены ён на аматарскім узроўні.., усё ж практычнае значэнне яго вельмі істотнае" ("Роднае слова, 1993, N 10, стар. 33). Якраз і бяда, што памылкі слоўніка ўжо набываюць сілу аўтарытэту і ўкараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага даведніка ўключаецца ў віктарыны (гл., напрыклад: В. Старычонак, "Займальная філалогія", Мн., 1998, стар. 39, 167), выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы.

Апошнім часам аналагічныя нападкі на беларускія фразеалагізмы актыўна здзяйсняе і П. Сцяцко як у сваіх выдадзеных у Гродзенскім універсітэце дзвюх кніжках, так і ў шматлікіх публікацыях. Асабліва ў газеце "Наша слова", дзе ён пад агульнай назвай "З чужой моўнай практыкі" на працягу амаль двух гадоў з нумара ў нумар крытыкуе "савецкі варыянт" беларускай мовы і замест яго стварае свой "сучасны варыянт". Рускую мову П. Сцяцко інакш і не называе, як "расейская", а пад "чужой моўнай практыкай" мае на ўвазе менавіта "расейскую". Цікава толькі, а як у такім разе, захоўваючы сістэмнасць, замяніць дзесятак утварэнняў ад прыметніка *рускі: русізм* (расізм?), *русіст* (расіст?), *русіфікацыя* (расіфікацыя?), *русафіл* (расафіл?)?..

Пад змены падпадаюць вельмі ж многія нормы ў галіне фанетыкі і правапісу, словаўтварэння, марфалогіі, сінтаксісу, лексікі. Дастаецца і фразеалагізмам. І яны трапляюць пад татальную рэвізію мовы.

Пра выраз *драць (задзіраць) нос* сказана, што яго варыянт *драць нос* "механічна перанеслі ў беларускую частку з расейскай (гэта асабліва практыкавалася ў 80-х гадах)". Па-беларуску гэты выраз, паводле П. Сцяцко, павінен выглядаць так: *задзіраць нос*. Але гэта няпраўда. Абодва варыянты не "механічна перанесены з расейскай", а жывыя адзінкі народнай мовы. Яны фіксуюцца ў слоўніках народнай фразеалогіі Г. Юрчанкі, Е. Мяцельскай і Я. Камароўскага. Параўнаем таксама ва ўкраінскай мове: *дерти (задирати) носа*. Як складальнік двухтомніка "Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы" (1993), я маю ў сваёй картатэцы 42 ужыванні выразу *драць (задзіраць, задраць) нос*. Сярод іх 8 — *драць нос*. Каго-каго, а Ф. Багушэвіча ўжо ніяк нельга абвінавачваць у імкненні, як дзесяткі разоў паўтарае П. Сцяцко, "зліць мовы", "падагнаць пад усесаюзны стандарт" і г. д. Паэт, які заклікаў шанаваць і "не пакідаць мову нашу беларускую, каб не ўмёрлі", у вершы "Ахвяра" пісаў: "Перад меншым я носу не драў..." Варыянт *драць нос* тройчы ўжыў К. Крапіва, па адным разе — І. Мележ, В. Гарбацэвіч, Р. Сабаленка, П. Місько.

Як вядома, ва ўсіх краінах свету нормы ўтвараюцца самой маўленчай практыкай, "куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення" (Л. Шчэрба), а не выдумляюцца асобным чалавекам, хто б ён ні быў: "пісьменнік, мовазнаўца, журналіст і г. д. Кадыфікаваная, узаконеная норма становіцца абавязковай для ўсіх носьбітаў мовы. У нас, аднак, для некаторых людзей моўная норма — не закон. Яны "ездзяць па левым баку".

У нашай мове ёсць дзеяслоўныя фразеалагізмы *складваць рукі, сядзець склаўшы (злажыўшы) рукі* і прыслоўны *склаўшы (злажыўшы) рукі*. У маёй картатэцы адпаведна 12, 43 і 24 іх ужыванні з твораў такіх аўтарытэтных аўтараў, як Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, П. Галавач, М. Зарэцкі, К. Чорны, К. Крапіва, М. Лынькоў, І. Мележ і інш. Усе тры выразы фіксуюцца ў слоўніках як літаратурная норма. А П. Сцяцко імкнецца пераканаць чытача, што *(сядзець) склаўшы (злажыўшы) рукі* "амаль даслоўна" перакладзі з адпаведнага "расейскага ўстойлівага спалучэння" і што замест *склаўшы рукі* трэба ўжываць "сваё адмысловае выслоўе *згарнуўшы рукі*". Прыводзяцца і нібыта аргументы: ім, маўляў, "вельмі актыўна карыстаюцца ў гаворках Зэльвеншчыны" (даецца прыклад з роднай вёскі Грабава). І яшчэ аргумент: "Карыстаецца гэтым фразеалагізмам і класік нашай літаратуры, выбітны майстра мастацкага маўлення Кузьма Чорны: "Я не сядзела тады на камені, паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі". Але ж у гэтым прыкладзе фразеалагізмам і не пахне, тут усе словы свабоднага ўжывання. А што да К. Чорнага, дык ён у творах "Семнаццаць год", "Вясна" і інш. ужывае толькі *склаўшы рукі*. Вось такія пірагі...

*Чорным па белым, хадзячая энцыклапедыя* ёсць у беларускай, рускай, украінскай *(чорним по билому, ходяча енциклопедія)*, некаторых іншых мовах. Прыйшлі гэтыя выразы з французскай мовы, першы — як калька, другі — як паўкалька. Толькі ў такой традыцыйнай форме іх і ўжываюць шматлікія аўтары (К. Крапіва, М. Лынькоў, М. Танк, Б. Сачанка і г. д.). На аснове гэтых ужыванняў выразы трапляюць у слоўнікі і кадыфікуюцца як норма. П. Сцяцко ж хоча абеларусіць гэтыя фразеалагізмы. Не маючы канкрэтных пашпартызаваных моўных пацвярджэнняў, ён спасылаецца на абстрактнага беларуса: "Беларус кажа: *жывая энцыклапедыя*" (а не *хадзячая*), "у жывой народнай мове бытуе натуральная сінтаксічная структура *чорным на белым*". Вось уж сапраўды, як пісаў Салтыкоў-Шчадрын, нішто не акрыляе так фантазію, як адсутнасць фактаў.

*На самай справе*, у *тым справа* — гэта, паводле П. Сцяцко, выразы, скалькаваныя слоўнікамі 60—80 гадоў "з чужой моўнай практыкі", а *кляваць носам, куры не клююць* — "механічна перанесеныя з расейскіх слоўнікаў". Грунтам для такіх сцвярджэнняў стала тое, што ў "Руска-беларускім слоўніку" (1953) рускае *в самом деле* перакладалася адпаведнікам *сапраўды; клевать носом — торкаць носам; куры не клюют — куры не дзяўбуць* і г. д.

Але, па-першае, ці варта ўвесь час абапірацца на РБС-53 як на бясспрэчны аўтарытэт? Калі падумаць, дык пры чым тут гэты слоўнік? Ён жа перакладны даведнік, разлічаны на перакладчыкаў з рускай мовы. Руская частка ў ім нарматыўная, а беларуская — гэта падбор больш-менш дакладных адпаведнікаў. Многія сучаснікі не ведаюць, што ён укладаўся ў цяжкіх ваенных умовах і ў першыя пасляваенныя гады і што ў яго складальнікаў і рэдактараў не было пад рукамі ні картатэкі, ні даведачнай літаратуры. А без шматтысячнай картатэкі з ілюстрацыйным матэрыялам як асновы любога слоўніка, перакладнога і тлумачальнага, цяжка пазбегнуць памылак. І іх там хапае.

Па-другое, пералічаныя вышэй выразы — не "з чужой моўнай практыкі". Яны ўвайшлі ў сучасныя слоўнікі як норма, бо сталі неаспрэчным фактам мовы. А ўжываліся гэтыя выразы і да "зліцця моў" — у 20-я гады; напрыклад, *на самай справе* — у творах П. Галавача, Ц. Гартнага, а *ў чым справа* двойчы выкарыстаў Я. Купала ў п'есе "Тутэйшыя" (1922). І слова *кляваць* са значэннем "есці, адшчыпваючы ежу дзюбай", якое генетычна ёсць у фразеалагізмах *кляваць носам, куры не клююць*, было не чужое для Я. Купалы. Ён яшчэ ў 1907 г. у вершы "Гэта крык, што жыве Беларусь" пісаў: "Тут крычаць вераб'і і клююць крапіву".

Па-трэцяе, лексічны і фразеалагічны склад мовы ўвесь час развіваецца, папаўняецца новымі словамі і выразамі, у тым ліку і за кошт запазычанняў з іншых моў. Існуе агульная для ўсіх моў і прызнаная ўсімі заканамернасць: "Літаратурная мова, нават калі яна засноўваецца на якім-небудзь адным дыялекце, ніколі не застаецца тоеснай апошняму, а развівае свае ўласныя рысы — у галіне фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу і слоўніка" (Р. Оці).

Выразы *па праву, больш таго*, канешне ж, запазычанні з рускай мовы. П. Сцяцко абеларушвае іх, замяняе, падрабляе: *"справядліва, па справядлівасці, заслужана"* — а не *па праву", "больш за тое, яшчэ больш,* а не *больш таго"*. Але ж яны замацаваліся ў мове, і тут нічога не зробіш. Сілком іх не выганіш і не навяжаш замест іх іншыя заменнікі. Менавіта гэтак пісалі не абы-якія аўтары, а В. Вітка, Ц. Гартны, Х. Шынклер, К. Крапіва і інш.

Замест *(спаць) мёртвым сном* прапануецца *каменным сном*, бо так гавораць у той жа вёсцы Грабава. Няўжо ж усім астатнім раўняцца на гаворку адной вёскі?

Прыслоўнаму кампаненту фразеалагізма *душа нарасхрыст (нараспашку)* уласціва лексічная варыянтнасць. П. Сцяцко — толькі за *нарасхрыст*, бо *нараспашку* — "з расейскай мовы". Аднак жа і па-за фразеалагізмам прыслоўе *нараспашку* прыжылося ў беларускай мове, падаецца ў ТСБМ, ілюструецца цытатамі, у тым ліку з І. Мележам: "Шынель яго расперазаны, нараспашку".

*"Па шчупаковай волі"* — а не *па шчупаковаму загаду"*, — устанаўляе норму П. Сцяцко і іранізуе наконт *па шчупаковаму загаду*: "Якая штучнасць?! Нібы шчупак піша загады?" Але калі звярнуцца да рускай народнай казкі, адкуль паходзіць гэты выраз ("по щучьему веленью"), дык іронія тут залішняя. Да таго ж для шматлікіх фразеалагізмаў з нерэальным вобразам у іх аснове знешняя нелагічнасць — звычайная рэч: *кот наплакаў, і куры не шэпчуць, сабакам сена касіць, выдраць лысаму валоссе, грушы на вярбе, ад яйка адліць, смаловы дуб, голаму за пазуху*... Пра пошукі фразеалагічнага адпаведніка да памянёнага рускага выразу ўжо не раз пісалі ў друку, асабліва Ф. Янкоўскі. У "Зборніку беларускіх прыказак" (1874) І. Насовіч занатаваў тоесны выраз *на шчупакова казанне*. Цяпер настойліва прапануецца *па шчупаковай волі*. Аднак у літаратурных тэкстах не даводзілася сустрэць хоць бы адно пацвярджэнне, што гэтыя аналагі бытуюць у мове. Таму пра адпаведную норму можна будзе гаварыць толькі тады, калі назапасяцца факты ўжывання ў маўленні якога-небудзь з гэтых, магчыма, патэнцыяльных выразаў.

Усе выразы, за выключэннем *па шчупаковаму загаду*, якія ў даведніку З. Санько і працах П. Сцяцко кваліфікуюцца як небеларускія, апісаны ў маім двухтомным "Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы" (БелЭн, Мн., 1993), а, як сказана ў выдавецкай анатацыі, "паводле адбору матэрыялу і яго граматычнай і стылістычнай ацэнак гэта нарматыўны слоўнік фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы". Таму, як складальнік слоўніка, я і мушу выступаць у іх абароне. А можа, і не толькі з гэтай прычыны. Душа не на месцы, калі бачыш, што вытвараюць з мовай — на дзяржаўным і недзяржаўным узроўні.

У сённяшніх варунках, неспрыяльных для беларускай літаратурнай мовы, разгледжанае моўнае эксперыментатарства як жаданне задаволіць свае "моватворчыя" амбіцыі — не на карысць мове, а толькі на шкоду. Лепей паслухаем Васіля Быкава, які не так даўно сказаў: "Настаў час.., калі нельга развіваць культуру... Важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, захаваць (у тым ліку і мову), як кансервуюць руіны старых замкаў і цэркваў. Сапраўды, культура падобна да евангельскага зерня і павінна памерці, каб уваскрэснуць зноў..."

**Іван ЛЕПЕШАЎ**

*г. Гродна*

 ЧАСАПІС

## Згадваючы Мацея Бурачка

Гарадзеншчына цесна звязана з лёсам аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. У Кушлянах ён правёў апошнія гады, у Жупранах пахаваны, у Гародню прыязджаў, каб сустрэцца з Элізай Ажэшкай. Каб гарадзенцы глыбей маглі пазнаёміцца з жыццём і творчасцю песняра, у музеі Максіма Багдановіча адкрыта выстава, на якой можна ўбачыць яго славутыя зборнікі "Дудка беларуская" і "Смык беларускі", што выйшлі ў Вільні ў выдавецтве Р. Знамяроўскага ў пачатку 1920-х гадоў. А таксама больш ранняе выданне 1908 года зборніка "Смык беларускі", ажыццёўленае суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбургу. Ёсць тут і "Гісторыя беларускай літаратуры" Максіма Гарэцкага 1920 года выдання, якая значнае месца адводзіць творчасці Ф. Багушэвіча — "наш першы нацыянальны паэт у поўным значэнні гэтага слова".

Шырока прадстаўлены на выставе і пазнейшыя выданні твораў песняра. Прыцягваюць увагу "Выбраныя творы" 1952 года з аўтографамі М. Ткачова, М. Ермаловіча, М. Купавы, М. Дуксы, У. Содаля і іншых удзельнікаў свята, прысвечанага памяці Ф. Багушэвіча, якое адбылося ў Кушлянах у 1983 годзе.

Цікавыя фотаздымкі як самога паэта, так і яго родных, сяброў. Вось ён малады на здымку, зробленым у гістарычным 1863 годзе. А побач здымак 1898 года. Паміж гэтымі здымкамі амаль што усё сталае і творчае жыццё Ф. Багушэвіча: удзел у паўстанні, вучоба ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, адвакацкая і судовая праца...

Аб жыцці і творчасці Ф. Багушэвіча ішла гаворка і на вечарыне, арганізаванай у музеі. Першым узяў слова прафесар ГрДзУ Аляксей Пяткевіч, які распавёў пра сувязь творчасці Ф. Багушэвіча з адраджэннем беларускай мовы і культуры. Ігар Жук, таксама выкладчык ГрДзУ, звярнуў увагу на Ф. Багушэвіча празаіка і мысляра-філасофа.

Юрась Пацюпа прачытаў даклад пра сувязь творчасці Ф. Багушэвіча з еўрапейскай літаратурнай традыцыяй і смехавай культурай у ёй, пра ўзаемаадносіны сатыры і гумару ў творах паэта.

Член-карэспандэнт НАН Беларусі, Андрэй Майсяёнак, распавёў пра тое, як творы Ф. Багушэвіча жывуць як народныя, бо маюць цесную сувязь з прыродай, рэчаіснасцю і канкрэтнай мясцовасцю.

Скончылася вечарына агульнай дыскусіяй, падчас якой кожны мог выказаць сваю думку, а таксама пачаставацца кавай і гарбатай, якія гасцінна прапаноўвала дырэктар музея Максіма Багдановіча ў Гродні Алена Гайко. Паміж выступамі гучала музыка. Юныя таленты з Гродзенскага музычнага вучылішча выконвалі творы беларускіх і замежных кампазітараў.

В. КІРЭЕЎ

## Пісаў на рускай мове

Дзмітрый Уксусаў (нарадзіўся 15 мая 1915 года ў горадзе Янакіева Данецкай вобласці на Украіне, памёр 19 верасня 1989-га) пісаў па-руску. З першымі апавяданнямі і нарысамі выступіў яшчэ ў даваенны час, калі працаваў сакратаром у раённай газеце "Ленинское знамя" (г. Тосна Ленінградскай вобласці, Расія) і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні Ленінградскага інстытута інжынераў камунальнай гаспадаркі. У гады Вялікай Айчыннай вайны — баец партызанскага атрада, адказны сакратар абласной газеты "Ленинградский партизан". З Беларуссю свой лёс звязаў у 1948 годзе, калі пасля заканчэння Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС быў накіраваны на працу рэдактарам баранавіцкай абласной газеты "Чырвоная звязда". Працаваў у рэдакцыі газеты "Советская Белоруссия" загадчыкам аддзела, намеснікам рэдактара (1952—1959), загадчыкам рэдакцыі ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, дырэктарам выдавецтва "Навука і тэхніка", а ў 1968—1975 гадах — адказным сакратаром часопіса "Служба быту Беларусі".

Аўтар кніг прозы "Ранний ветерок" (1959), "Я — твой друг" (1962, другое, дапрацаванае выданне ў 1965-м), публіцыстычнай кніжкі "Постоянно действующий агитпункт", што ў 1961 годзе выйшла ў Маскве.

 УГОДКІ

# "Аб волі бязмерны... сум"

На травень гэтага года прыпаў стогадовы юбілей з дня нараджэння паэта Уладзіміра Жылкі. Савецкі літаратурны афіцыёз рэабілітаваў Жылку як паэта зусім нядаўна, хоць афіцыйная рэабілітацыя адбылася значна раней, у 1960 годзе.

Жыццё і творчасць паэта унікальныя сваёй трагічнай характэрнасцю для Беларусі. Лёс паэта, загінуўшага ў ссылцы ў 33 гады, — гэта лёс цэлага пакалення беларусаў, абуджаных нацыянальнай ідэяй і забраных у ахвяру чырвонымі легіёнамі трэцяга Рыма.

Складанасць і самабытнасць паэзіі Жылкі адзначалася ў 20-х гадах, крытык Антон Навіна лічыў паэзію Жылкі нацыянальнай па ідэалагічнай вастрыні і па шматфарбнасці вобразнай палітры. Яго творчасць ухвалялася крытыкамі і грамадска-палітычнымі дзеячамі, напрыклад, Максімам Гарэцкім, Леапольдам Родзевічам, Тамашом Грыбам, ці кіраўніцтвам беларускага пасольскага клуба ў польскім сейме, якое на свой кошт выдала зборнік паэта "На ростані". Па словах сучаснага даследчыка літаратурнай спадчыны Жылкі У. Калесніка: "У сваёй паэзіі Жылка адштурхоўваўся ад еўрапейскага мадэрнізму, але выкарыстоўваў толькі здабыткі буйных талентаў розных кірункаў — Ібсена, Міцкевіча, Бадлера, прызнаваў вартасць авангардысцкай паэзіі Чэхіі і Польшчы. Становіча ацэньваючы вопыт калегаў — У. Дубоўкі, Я. Пушчы, працягваючы патрыятычную легенду нацыянальнага вызвалення, створаную Купалам, Багдановічам, Коласам, Жылка звязваў у адзін вузел ідэі сацыяльнага, нацыянальнага і духоўнага адраджэння".

Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 траўня 1900 года ў вёсцы Макашы, гэта паміж Нясвіжам і Мірам, у сям'і Адама Жылкі і Тацяны з Раманейкаў. У маладой сям'і хлопец быў першынцам, акрамя яго, у бацькоў было яшчэ трое сыноў: Алег, Барыс, Кастусь.

Першую навуку Уладзімір спасцігаў спачатку ў Гарадзейскай царкоўнапрыходскай школе, а потым у Мірскай гарадской вучэльні. Чатырнаццацігадовым юнаком разам з сям'ёй трапляе ў Мінск, дзе бацька, патомны селянін, атрымаў месца гандляра ў царкоўнай краме. У гэтым жа годзе пачынаецца першая сусветная вайна і Жылка ад'язджае ў г. Багародзіцк Тульскай губерні, дзе і вучыцца. Калі вярнуўся на Беларусь — дакладна невядома, але ўжо ў 1916 годзе ён скончыў Слонімскую вышэйшую семінарыю. Далей паступае ў Ковенскую сельскагаспадарчую вучэльню. Неабходна адзначыць, як ставіліся ў сям'і Жылкаў да навукі. Вось што пісаў брат Уладзіміра Барыс у сваім лісце да У. Калесніка: "Бацькі не шкадавалі грошай на набыццё кніжак. І іх у нас назбіралася шмат. Падчас пераезду адна падвода была цалкам загружана кніжкамі — Пушкін, Лермантаў, Гогаль, Цютчаў, Фет, Надсан, усе дадаткі да часопісаў. Былі ў нас і ўсе кніжкі беларускія, якія толькі выйшлі да 1914 года..."

Рэвалюцыйны 1917 сустрэў ужо ў Мінску, быў сведкам, калі бальшавікі штыкамі разагналі Першы Усебеларускі кангрэс і менавіта гэта падзея больш за ўсё ўразіла паэта і прыкавала яго ўвагу да тэмы Беларусі. І тут жа, у Мінску, вітаў абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, доказам можа служыць першая публікацыя паэта ў газеце "Беларусь" — верш "Покліч". У літаратурных адносінах верш яшчэ не мае арыгінальнага мастацкага вобраза, але праз традыцыйнасць ужо прабіваецца "аб волі бязмерны... сум".

У гэты час вызначаецца грамадская пазіцыя паэта, па сваіх палітычных поглядах яму былі бліжэй беларускія эсэры, да якіх ён сябе і адносіў. Разумеючы неабходнасць



пераўтварэння беларускага грамадства, паэт разумеў і тое, што існуе толькі адзіны спосаб рэалізацыі мэты — гэта нацыянальная рэвалюцыя, канчатковым вынікам якой з'яўляецца нацыянальная і сацыяльная свабода беларускага народа.

У выніку падпісання Рыжскага дагавора і падзелу Беларусі паміж бальшавіцкай Расіяй і Польшчай паэт, не жадаючы таго, апынуўся ў Польшчы. З Падляшша, дзе ён знаходзіўся ў гэты час, пераязджае ў Вільню. Як Максім Багдановіч і Янка Купала, Уладзімір Жылка быў зачараваны хараством другой сталіцы, тут напісаў свае паэтычныя шэдэўры — "Палімпсест" і "Уяўленне". Але ў хуткім часе вымушана пакідае Вільню і ад'язджае ў Коўна, дзе ў той час знаходзілася эміграцыйная

 СПАДЧЫНА

# "І плакала Рыва..."

ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ АПАВЯДАННЕ ЛЫНЬКОВА

### 1.

У нататцы, змешчанай у адрыўным календары "Родны край" з нагоды стагоддзя з дня нараджэння Міхася Лынькова, гэтае апавяданне ў пераліку створаных пісьменнікам літаратурных жамчужын было названа памылкова — "Той". Хочацца думаць, з прычыны проста недастатковай уважлівасці карэктараў. Але допускаю іншае: што хтонебудзь з тых карэктараў, наборшчыкаў, нават рэдактараў палічыў недаглядам аўтара (калі памяць не падводзіць, Алены Васілевіч) сустрэтую ў рукапісным арыгінале назву "Гой". Ніколі не чуўшы такога слова, падумаў, што гэта апіска,і механічна апіску выправіў.

Дык пераканаўся: у пару, калі актыўнымі чытачамі былі бацькі-дзяды сённяшніх карэктараў і рэдактараў, магчымасць падобнага непаразумення выключалася. Таму што надта ж папулярнай у дваццатыя — трыццатыя была на Беларусі гэтая рэч. Надта ж на слыху ў людзей...

Ёсць зачыны літаратурных шэдэўраў, на якія з прасветленым тварам адгукаецца мала не кожны, да каго з імі звяртаешся. Чытаеш стрэчнаму: "Мой дядя самых честных правил..." — і чуеш як адказ на кінуты пароль: "...когда не в шутку занемог..." Адрасуешся да каго з журботным: "Выхожу один я на дорогу..." — вяртаецца да цябе працяг страфы: "Сквозь туман кремнистый путь блестит". Вымавіш "Все смешалось в доме Облонских" — той, хто пачуў, падміргвае: і мы, маўляў, чыталі Талстога. Народжанаму на Беларусі прадэкламуеш: "Паміж пустак, балот беларускай зямлі..." — чалавек падхоплівае: "На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай..."

Гэтак было колісь у беларускай чытацкай грамадзе і з "Гоем". Напеўны першы сказ апавядання: "І плакала Рыва..." выклікаў у кожнага, каму бываў моўлены, рэагаваннем далейшым з прапога рэчы: "Яна палюбіла гоя..."

### 2.

З часу, калі апавяданне пісалася, мінула без малога тры чвэрці стагоддзя. Сем дзесяцігоддзяў, што вельмі ж змянілі рэаліі, якімі было яно аўтару навеяна.

Не так даўно наша тэлебачанне пракруціла дакументальную стужку Феликса Кучара "Мястэчка. Зыход". Сярод іншага распавядання фільмам запомнілася: у 1927 годзе, гэта блізка тады, калі ў Бабруйску выйшаў альманах "Уздым" з першай публікацыяй "Гоя", у Лагойску з ягоных дзвюх тысяч жыхароў больш за тысячу былі яўрэі. Пры дзесяцітысячным насельніцтве сённяшняга Лагойска жывуць у ім толькі чацвёра яўрэяў.

Характэрная з'ява не для аднаго Лагойска — для ўсёй Беларусі. Дарэвалюцыйны Паўночна-Заходні край быў часткай сумнаслыннай мяжы аселасці, тэрыторыі ў прасторах Расійскай імперыі, дзе яўрэі мелі права бытаваць. Сяліцца па-за гэтай шматгубернёвай рэзервацыяй дазвалялася невялікай, агавoранай у спецыяльных высокіх указах, катэгорыі яўрэйства. Таму на пачатку стагоддзя паводле тадышніх перапісаў яўрэі складалі ў беларускіх губернях аж чатырнаццаць працэнтаў насельніцтва. Паводле ж апошняга перапісу, праведзенага ў нашай краіне, яны не дасягаюць тут цяпер у складзе жыхарства і трэці аднаго працэнта. Прычыны вядомыя: трагічныя вынікі Халакосту, шырокая асіміляцыя пры змешаных шлюбах, маштабнасць эміграцыі грамадзян з непаўнацэнным ва ўмовах пасляваеннага СССР пятым пунктам у пашпарце, проста няўхільнае зніжэнне ў Еўропе нараджальнасці.

Радыкальна зменшылася колькасць яўрэйскага насельніцтва ў беларускіх гарадах, яўрэйскіх жа мястэчак з іх своеасаблівым каларытам пасля вайны наогул на Беларусі не засталося. Мястэчак, што з сівой даўніны былі пры Нёмане, Дзвіне, Сожы, Прыпяці, Бярозе гнездзішчамі працавітага, рупнага людства. Няхай адрознага ў багаслужбе і ў побыце ад суседзяў-беларусаў, але дружалюбнага з імі, шчыразычлівага. "Маё маленства прайшло ў мястэчку, дзе жылі беларусы і яўрэі, — чытаем у мемуарным нарысе Пімена Панчанкі, надрукаваным у зборніку ўспамінаў пра Лынькова. — Таму апавяданне Міхася Ціханавіча "Гой" мне асабліва блізкае і зразумелае". Колькі ўпадабаўшых колісь рамантычную навеліcтыку ранняга Лынькова з пакаленняў, блізкіх да Панчанкавага, маглі і могуць сказаць тое самае!

Аднак пры блізкім суіснаванні, пры вяках пад адным небам усё-такі ўстойвала паміж народамі, як сказана ў апавяданні, вялікая сцяна. Сцяна чужынства і недаверу, узведзеная эрамі змрочнай бурапеннасці цемрашальства. Ды мінулае ведае нямала прыкладаў, як гарачае каханне дзёрзка спрабавала сцяну гэтую праламаць.

У рэспубліканскім гістарычным архіве я некалі натрапіў быў на сведчы пра тое дакумент. На датаванае 26 красавіка — 11 чэрвеня 1866 года "Дело о насильственном окрещении дочери мещанина Энгельсона П. г. Борисова Итки и обвенчании ее с рядовым Малоярославского пехотного полка Донцовым". Гартаў, памятаю, суконнамоўныя паперы з пераказам акалічнасцей факта, што ўстрывожыў у губерні цывільнае, вайсковае, царкоўнае начальства, і не пакідала мяне ўражанне, што не былі тыя крышчэнне і вянчанне насільныя, а ўчынена ўсё было па змове закаханых дзяўчыны і хлопца.

У сваёй цудоўнай аповесці пра пісьменніцкую працу "Залатая ружа" Канстанцін Паўстоўскі згадвае гісторыю, што стала сюжэтам яго першага, яшчэ гімназійнай пары апавядання. Трагедыю, якая ўскалануна колісь нядобра слынны сёння па ўсім свеце Чарнобыль, тады нічым не адметнае мястэчка. Там пакахалі адно аднаго красуня-ўкраінка Хрысця і дзівакаваты юнак-яўрэй Іося. Дык гэтулькі асуджэння, здзекаў, абраз выпала небаракам перацярпець, што Хрысця не вытрывала — памерла, а Іося звар'яцеў.

Колькі ў мяжы аселасці ўжо узнікала трагічных, драматычных, а то камічных фабул з прычыны ўзгарання ўзаемнага пачуцця паміж яўрэем і неяўрэйкай, яўрэйкай і неяўрэем! Колькі напісана на гэтую тэму літаратурных твораў!

Вось і Лынькова, журналіста, намесніка рэдактара акруговай газеты ў Бабруйску, гарадзе і наваколлі з вельмі высокім працэнтам яўрэйскага жыхарства, першая прызнаная рэч у мастацкай прозе — пра гэта. Пра адоленне двума закаханымі памянёнай прыкрай сцяны.

Дзея апавядання адбываецца пасля рэвалюцыі, мяжы аселасці ўжо няма. Але адчуванне яе ў сабе, ды спалучаная з гэтым адчуваннем насцярожанасць да ўсіх, хто можа выявіць носьбітам нацыянальнай абразы, знявагі, — такое адчуванне ў яўрэйскіх местачковых мурашніках вой як яшчэ жыве. І хоць дужа сімпатычным чалавекам выглядае малады чырвоны камандзір Міхась, пастаялец у хаце шаўца Моталя, відочная ўзаемапрыхільнасць пастаяльца і дачкі, а потым заўважаная мястэчкам, ды і не надта тоеная абаімі, большае паміж імі, чым толькі ўзаемапрыхільнасць. Моталя вельмі трывожыць. Аж да пагрозы праклёну дачкі...

Для мяне Лынькоў заўсёды быў на п'едэстале. Першы раз убачыў яго, жывога класіка, у сорак шостым — прыйшоў супрацоўнікам "ЛіМа" дамоў да яго па нешта напісанае ім для газеты. Потым з пачціваcцю цікаваў за белай яго галавой і высокай прысутуленай постаццю на пісьменніцкіх пленумах, у калідорах Акадэміі навук, выпадкова стрэўшы яшчэ дзе. Пагутарыць з ім не пашчасціла ніколі. А калі б і пашчасціла, не адважыўся б пра такое спытаць. Але думаецца мне, што

Рада БНР. Урэшце, у 1923 годзе, пры спрыянні Леапольда Родзевіча, Жылка выязджае на вучобу ў Пражскі універсітэт — як стыпендыят чэшскага ўрада. Ва універсітэце паступае на філалагічны факультэт, дзе студыюе славянскую літаратуру і гісторыю. Актыўна ўключаецца ў грамадскую працу — рэдагуе студэнцкі часопіс "Перавясла", а пазней бярэ пад сваю апеку наваствораны "Прамень", арганізоўвае літаратурныя вечарыны. Але працаваць так, як хацелася, не дазваляла хвароба, ён быў хворы на сухоты і часта быў вымушаны ад'язджаць на лячэнне.

Акрамя асабістага аўтарытэту, сябры прызнавалі за ім і бясспрэчны аўтарытэт літаратурны. Менавіта ўласная творчасць для паэта была галоўнай, праўда на яе і не хапала часу, здаралася пісаць вершы толькі па начах. У 1923 годзе ў Вільні быў выдадзены першы зборнік паэта "Уяўленне", а праз год, пры спрыянні Антона Луцкевіча — другі — "На ростані":

***На ростані дарогаў многа,***
***А лучнасць іх — пахілы крыж.***
***І вецер лёгкі на разлогах,***
***І неба яснасць, шыр і выш.***

Жаданне вярнуцца на Радзіму і страх хворага паэта памерці на чужыне выклікалі рашучасць прыехаць на Беларусь. Усе адгаворы сяброў і разуменне рэчаіснасці, што панавала тады ў Беларусі, не пераканалі паэта. "Я еду на Бацькаўшчыну не па тое, каб пакланіцца катам, дастасавацца да іх кірункаў, а толькі па тое, каб яшчэ раз пабачыць Беларусь, надыхацца яе паветрам і спакойна памерці, зляжыць свае косці ў роднай зямельцы — побач з косцьмі сваіх продкаў". У 1926 годзе ён наведаў БССР, дзе прыняў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу, тады і прыняў савецкае грамадзянства.

Па прыездзе ў Мінск Жылка працуе літсупрацоўнікам у "Звяздзе", перакладчыкам на Белдзяржкіно, дзе перакладае фільмы на беларускую мову. Яго праца не заўсёды знаходзіла поўнае разуменне, некаторыя пераклады былі не зусім зразумелыя для чыноўнікаў і паэт мусіў даваць тлумачэнні. У музычным тэхнікуме, дзе ён працаваў выкладчыкам, знаёміцца са студэнткай Рымай Маневіч, якая неўзабаве стала яго жонкай. Уступае ў літаратурную арганізацыю "Маладняк", але аб'яднанне паступова ператвараецца ў бальшавізаваную арганізацыю, дзе нацыянальнаму не застаецца месца. Не дзіўна, што паэт быў выключаны з "Маладняка" як "буржуйны эстэт", "варожы пралетарскай грамадскасці". Літаратурная крытыка таксама не абышла ўвагай "варожыя афіцыйнай лініі" творы Жылкі. Тым больш, што матэрыялу прыбыло, выйшаў зборнік "З палёў Заходняй Беларусі". У зборніку ўпершыню была надрукавана нізка пад назвай "Вершы спадзявання" — найлепшае з інтымнай паэтавай лірыкі, якая з'явілася аб'ектам асаблівых нападак з боку афіцыйнай крытыкі. Развітаўшыся з "маладнякоўцамі", Жылка перайшоў у аб'яднанне "Узвышша". І менавіта першаму з "узвышаўцаў" Жылку давялося прымераць цярновы вянок.

18 ліпеня 1930 года Уладзімір Жылка быў арыштаваны. На допытах паэт адмовіўся падпісаць паперы аб сваім удзеле ў міфічным Саюзе Вызвалення Беларусі, кіраўніком якога, па версіі ГПУ, з'яўляўся Я. Купала. Праз некаторы час, з прычыны абвастрэння хваробы, яго вызваляюць з-пад варты, але хутка арыштоўваюць зноў і 10 сакавіка 1931 года абвяшчаюць судовы прысуд — пяць гадоў высылкі ў горад Уржум... Улічваючы цяжкі стан здароўя паэта, гэта было роўна смяротнаму прысуду. Па іроніі лёсу, менавіта да "кіраўніка", да Купалы звярталіся сябры па дапамогу выратаваць згасаючае ў ссылцы жыццё паэта. Ліст да Купалы ад Ф. Купцэвіча.

"Паважаны Іван Дамінікавіч!

Неабходнасць ратаваць жыццё чалавека прымусіла мяне звярнуцца да Вас па дапамогу. Рэч ідзе пра Уладзіміра Жылку — беларускага паэта і грамадзянскага дзеяча... У дадатак да хваробы, якая, відаць, зусім дабівае яго, ён застаецца абсалютна адзін. Няма каму нават падаць шклянку вады. Жонка яшчэ летам уцякла, адмовілася ад яго, кінуўшы на волю лёсу хворага і непрыдатнага да работы.

Просьба мая будзе ў тым, каб Вы самі, альбо праз нейкага знайшлі патрэбным сказаць у Менску нашым кіраўнікам пра лёс гэтага няшчаснага чалавека. Больш за ўсё хацелася б дабіцца пераводу Уладзіка ў той горад, дзе былі б свае людзі, якія маглі б хоць збольшага за ім даглядаць. Такім найбліжэйшым горадам у адлегласці якіх усяго 60 км ад Уржума будзе Налінск. Тамтэйшая беларуская калонія з радасцю бярэ яго на свае рукі. Астаноўка толькі за адміністрацыйным дазволам на пераезд. Калі б Вы дапамаглі дабіцца гэтага дазволу, то гэтым многа палепшылася бытаванне аднаго з неапошніх сыноў Бацькаўшчыны". (Ліст выяўлены ў архіве КДБ Рэспублікі Беларусь У. Міхнюком і М. Клімовічам.)

Невядома, ці дайшоў ліст да Купалы і якой была рэакцыя паэта, але вядома, што адносіны паміж імі былі вельмі добрымі. Адзін эпізод апісвае ў сваім лісце брат паэта Барыс Адамавіч: "Уладзік сустрэў Купалу, яны прыселі і пачалі гутарыць, да іх падышоў Колас і гутарка зацягнулася надоўга. Пасля Колас усхамянуўся, падняўся, падышоў да Купалы і Уладзіка (яны сядзелі поруч), абняў іх, кожнага пацалаваў і сказаў: "Як я вас, браточкі, люблю". Калі нават ліст і дайшоў, то Купала наўрад ці змог чым дапамагчы Жылку, бо сам знаходзіўся пад наглядам ГПУ і ў 1930 годзе спрабаваў скончыць жыццё самагубствам.

1 сакавіка 1933 года Уладзіміра Жылкі не стала. Бальшавіцкае быццё пазбавіла чалавека не толькі яго свабоды пры жыцці, сістэма размеркавання распараджалася чалавекам і пасля яго смерці. Новыя спадары, якія былі бліжэй усіх да народа, аднялі ў яго нават права памерці і быць пахаваным "побач з косцьмі сваіх продкаў". Магіла паэта знаходзіцца на Уржумскіх могілках. У нейкім сэнсе лёс Уладзіміра Жылкі — крок беларускага народа па фатальным шляху сваёй гісторыі, крок значна больш беззваротны і трагічны, чым папярэднія.

**Юрый ТУРАЎ,**
**навуковы супрацоўнік**
**музея Янкі Купалы**

ў тканіне "Гоя" ёсць нешта і ад ягонага асабістага. Першай жонкай Міхася Ціханавіча была яўрэйка Хана Абрамаўна. У згаданым ужо зборніку ўспамінаў пра пісьменніка апублікавана і слова яго сястры Ганны Ціханаўны. У слове тым горасна расказваецца, як у сорак другім годзе паліцаі схапілі і адправілі на смерць брату сям'ю — жонку і сына Марыка.

**3.**

У апошнія дзесяцігоддзі з жанравым азначэннем "апавяданне" друкуецца самае рознае. Замалёўкі, абразкі, падарожныя нататкі, старонкі мемуараў, крытычныя эцюды — што хочаце. Кепска гэта, ці добра, не ведаю. Проста канстатую.

У час, калі пісаліся "Гой", іншыя лынькоўскія рэчы, што ўваходзяць у залаты фонд беларускай навелістыкі, азначэнне гэтае строга патрабавала наяўнасці ў творы, пад назвай якога станавілася, абавязковых сюжэтных апораў — завязкі, кульмінацыі, развязкі.

У "Гоі" яны драматургічна выразныя, названыя тры кіты, на якіх створаны мастаком мікрасвет трымаецца. Мабыць, і дзякуючы вопыту ранейшых літаратурных спроб. У кнізе Дзмітрыя Бугаёва аб прозе Лынькова даваеннага часу згадана, што на год раней за "Гоя" будучы магутны празаік напісаў і паслаў на конкурс пару п'ес. Хоць атрымаў на іх кісласалодкі водгук — маўляў, пры дапрацоўцы дасланае можа быць скарыстана ў гуртках мастацкай самадзейнасці, — "аддаў агню злашчасныя мае "трагікамедыі" і назаўсёды развітаўся з гэтым жанрам", насмешліва напісана было Міхасём Ціханавічам у немаладыя ўжо гады ў рукапіснай аўтабіяграфіі. Але ж, дазволю сабе такое меркаванне, практыкай сюжэтабудовы, няхай вобмаль, узбагаціўся і седзячы над тымі вучнёўскімі опусамі для сцэны.

На кнізе Бугаёва, на іншых вядомых даследаваннях творчасці Лынькова — не ў дакор аўтарам тое гаворыцца — сёння надта ж відзён ідэалагічны адбітак часу, у які яны нараджаліся. Але аналіз непасрэдна выяўленчых сродкаў апавядальніка, размова пра багацце палітры гэтых сродкаў не страцілі слушнасці і пераканаўчасці.

Як не згадзіцца, напрыклад, з Фёдарам Куляшовым, чытаючы ў яго кнізе — агляде жыццёвага і творчага шляху пісьменніка: "Аўтар "Гоя" любіць мову метафарычную, часам залішне расквечаную, з багаццем інверсій". Трошкі хіба выклікае пярэчанне — зрэшты, можа, гэта ў мяне асабістае — няпоўнае прыманне крытыкам адзначанай расквечанасці. Чытаю: "Пісьменнік ужывае рытмічныя, павольна-напеўныя, некалькі манерныя сказы, унутры якіх словы расстаўлены нязвыкла", — і з гэтым "некалькі манерныя", з гэтым "словы расстаўлены нязвыкла" хочацца паспрачацца.

Ну так, ёсць яно там, ёсць — і адмысловая маляўнічасць, і ўзвышанасць інтанацыі, і інверсійнасць. Але ж гэта якраз і стварае прачулую мелодыю аповеднай плыні, надае ёй харошую ўзнёсласць.

Такое, напрыклад: "Вечар ліпнёвы ахінуў змрокам сінія палі местачковыя. Цішыня косамі шаўковымі атуліла саламяныя хаты, пад месячыкам бледным жаўцеюць пахілыя стрэхі, лес чарнее за рэчкай".

Альбо такое: "Усміхнулася раніца ўсмешкай сонечнай саламяным хатам. Прачнулася мястэчка, прачнулася і Рыва. Завінулася каля работы хатняй. Кіпіць работа ў спрытных руках, а ў сэрцы — сонца косы залатыя сплятае, уплятае ў іх радасці чалавечай каралі чырвоныя".

Максім Горкі некалі рашуча не прыняў чароўную аповесць Купрына "Суламіф". За сам факт, што калега, шанаваны ім як добры бытапісец, палез у біблейскую пракаветнасць. І, трэба думаць, таксама за арнаментальнасць, далёкасць ад забытоўленасці мовы перастворанага Купрыным падання з "Песні песень". Буравеснік рэвалюцыі лічыў тады, што грамадства мае патрэбу "ў простай, яркай, здаровай літаратуры", да якой вытанчанае, накшталт "Суламіфі", не адносіў.

Надзвычайная папулярнасць аповесці Купрына многія і многія гады, шматразовы выхад яе на колькіх мовах па-за Расіяй — ці не сведчанне, што грамадству патрэбна не толькі тое ў літаратуры, што вартым таго бачылася Горкаму. Ды і сам Аляксей Максімавіч, пішучы, напрыклад, "Казкі аб Італіі", хіба не быў у нечым досыць блізкі да непрынятага ў "Суламіфі"? Але крытыкава трохі сентэнцыйнае пра "некалькі манерныя сказы" — яно, вядома, ад Горкага перыяду ягонай "Маці", ад закладзеных ім пастулатаў сацыялістычнага рэалізму.

Увеўшы ў круг сваіх разважанняў біблейскую "Суламіф", дазволю сабе сказаць і зусім па нядаўніх часах крамольнае. Што трошкі біблейскай мелодыкі мне чуецца і ў "Гоі". Вазьміце сам паміданы ўжо зачын: "І плакала Рыва..." Напеўнае "І" ў пачатку сказа, у пачатку сціха (не верша!) — паходжаннем біблейскае! Разгарніце Стары запавет. На першай жа старонцы: "И сказал Бог...", "И увидел Бог...", "И произвела земля...", "И был вечер..." Апавядальная плынь дзе-нідзе яўна перагукаецца інтанацыяй з той самай "Песняй песень". Калі б у мінулым прыйшло каму-небудзь у галаву думку пра гэта выказаць, няцяжка ўявіць, якое гэта было б абвінавачанне аўтару апавядання. Быў жа камуністам, прытым у маладосці шчырым, рамантычным, быў рэдактарам газеты, што называлася "Камуніст", часопіса, што называўся "Полымя рэвалюцыі", кіраўніком рэспубліканскай пісьменніцкай суполкі!..

Не кожная страфа ў гэтай паэме ў прозе паэтычная. Ёсць пад канец апавядання, найперш у "хэпіэндным" эпіложку лексіка, безумоўна, не "Песні песень":

"...Паменшыўся лік краўцоў і шаўцоў у мястэчку. Большасць іх працуе ў сельскагаспадарчых арцелях, якія тут жа змясціліся каля мястэчка.

Сора Гілерава не носіць болей сахарыны па вёсках, яна корпаецца кожны дзень на агародах арцелі, поле і палівае гуркі, капусту, абкапвае бульбу, доіць кароў...

А Міхась, о, ён тут жа, у мястэчку, працуе ў кааперацыі. Арганізаваў ячэйку партыйную..."

Адбітак часу, сказана вышэй, відзён на тым, што пісалася пра "Гоя" крытыкамі. Час, у які яно пісалася, у дастатковай меры нагадвае пра сябе і ў самім апавяданні.

**4.**

Успамінаецца даўняя размова з крытыкам, які сістэматычна дзёўб раманы Караткевіча. Процьма грахоў і хібаў, гаварылася мне, была ў тых раманах. Някласавы падыход, гістарычная няпраўда, богведама што яшчэ. Раздражнёны напорам казённай талмудыстыкі, я спытаў: але адставіўшы ідэалагізаванне, няўжо суразмоўнік не атрымлівае асалоды проста ад хараства Караткевічавага слова? Чаму ж, было адказана, атрымлівае, Караткевіч словам валодае, чытаць яго цікава, піша таленавіта, але ж... І тое, што я паспрабаваў спыніць, загучала нанава.

Натрапляючы на не так рэдкае цяпер у літаратурных выданнях адмаўленне самаўпэўненымі і сярдзітымі маладымі людзьмі дасягнутага беларускай літаратурай у савецкі перыяд, я вяртаюся памяццю да той размовы. Сённяшнія адмаўленцы трымаюцца, зразумела, пазіцыі, процілеглай той, якой трымаўся заіл Караткевіча. Што было для яго кепскім — для іх цудоўнае, што называлася ім станоўчым — для іх заганнае. Але нежаданне ўспрымаць твор не палітыкуючы аднолькавае што ў яго, што ў іх.

Вось і баюся, уперадзе апавяданне "Гой" застанецца знаёмым толькі спецыялістам-літаратуразнаўцам. Бо, прыкідваючы, уключаць ці не ўключаць яго ў перавыданні Лынькова, суперпрагрэсіўныя выдаўцы стануць моршчыцца над арцелямі, кааперацыяй і партыйнай ячэйкай, як прыкметамі дасягнутага мястэчкам шчасця, стануць сумнявацца, ці варта, каб чытач убачыў балахоўцаў вылюдкамі, якімі паказаны яны ў апавяданні: мала што аўтар сам чырвонаармейцам з імі змагаўся, цяпер жа Булак-Балаховіч шмат для каго на Беларусі амаль нацыянальны герой. Завагаюцца гэтаксама, як усе пасляваенныя дзесяцігоддзі, падобна на тое, не ведалі выдавецтвы і кіруючыя імі структуры, ці даваць "Гою" плошчу ў чарговых зборніках пісьменніка: надта ж непажаданаю зрабілася тэма апавядання. І ўключалася яно пасля вайны адно ў тамы двух ажыццёўленых Збораў твораў майстра.

Відаць-такі не будзе болей зачын "І плакала Рыва..." гаварыць чытачам тое, што гаварыў іхнім бацькам і дзядам.

А шкада. Бо апавяданне выдатнае.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# Каб помнілі

## МЕМАРЫЯЛЬНЫ СПІС ПАМЁРШЫХ І ЗАГІНУЎШЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак у №№ 18—19, 20)*

**Аляксандр ВАЗНЯСЕНСКІ**

Аляксандр Мікалаевіч Вазнясенскі, рускі і беларускі літаратуразнавец.

Нарадзіўся 17 ліпеня 1888 года ў сяле Чукалы Ардатаўскага раёна (Мардовія, Расія).

Памёр 16 студзеня 1966 года.

Пахаваны (?).

**Феліксас ВАЙШНОРАС**

Феліксас Вайшнорас, літоўскі паэт, журналіст і перакладчык (з беларускай на літоўскую мову).

Нарадзіўся 18 мая 1897 года ў вёсцы Пілвішкіс Вілкавішскага раёна (Літва).

Памёр 21 жніўня 1972 года.

Пахаваны (?).

**Лідзія ВАКУЛОЎСКАЯ**

Лідзія Аляксандраўна Вакулоўская нарадзілася ў горадзе Шчорсе Чарнігаўскай вобласці (Украіна). Руская пісьменніца.

Памерла 28 жніўня 1991 года.

Пахавана на радзіме, у горадзе Шчорсе.

**Эдуард ВАЛАСЕВІЧ**

Эдуард Станіслававіч Валасевіч, беларускі паэт.

Нарадзіўся 12 сакавіка 1918 года ў горадзе Магілёве.

Памёр 2 верасня 1992 года.

Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках (крэматорый).

**Пётр ВАЛКАДАЕЎ**

Пётр Іванавіч Валкадаеў, рускі паэт і празаік.

Нарадзіўся 22 лістапада 1911 года ў вёсцы Кажамякі Кінель-Чаркаскага раёна Куйбышаўскай вобласці (Расія).

Памёр 4 лістапада 1973 года.

Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

**Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ**

Іосіф Іосіфавіч Васілеўскі, беларускі і рускі паэт і перакладчык.

Нарадзіўся 8 снежня 1911 года ў горадзе Данецку (Украіна).

Памёр 20 красавіка 1994 года.

Пахаваны ў Івангорадзе Ленінградскай вобласці.

**Міхась ВАСІЛЁК**

Міхась Васілёк (Міхаіл Восіпавіч Касцевіч), беларускі паэт.

Нарадзіўся 14 лістапада 1905 года ў вёсцы Баброўня Гродзенскага раёна.

Памёр 3 верасня 1960 года.

Пахаваны (?).

**Яўген ВАСІЛЁНАК**

Яўген Пятровіч Васілёнак, беларускі пісьменнік і перакладчык.

Нарадзіўся 26 снежня 1917 года ў Оршы.

Памёр 23 верасня 1973 года.

Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

**Ніна ВАТАЦЫ**

Ніна Барысаўна Ватацы, беларускі бібліёграф і літаратуразнаўца. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР.

Нарадзілася 14 мая 1908 года ў горадзе Вендэні (цяпер горад Цэсіс, Латвія).

Памерла 3 ліпеня 1997 года.

Пахавана ў Мінску на Паўночных могілках (крэматорый).

**Зоська ВЕРАС**

Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік), беларуская пісьменніца і перакладчыца.

Нарадзілася 30 верасня 1892 года ў пасёлку Мяджыбаж Лятычаўскага раёна Хмяльніцкай вобласці (Украіна).

Памерла 8 кастрычніка 1991 года.

Пахавана ў Вільні.

**Алесь ВЕЧАР**

Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч) Вечар, беларускі паэт, вучоны-біяхімік.

Нарадзіўся 25 сакавіка 1905 года ў вёсцы Машчыцы Слуцкага раёна.

Памёр 4 красавіка 1985 года.

Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

**Мар'ян ВІЖ**

Мар'ян Віж (Мар'ян Міхайлавіч Зайцаў), празаік.

Нарадзіўся 23 лютага 1949 года ў Мінску.

Памёр 30 красавіка 1999 года.

Пахаваны ў Мінску на Козыраўскіх могілках.

**Змітро ВІТАЛІН**

Змітро Віталін (Дзмітрый Іванавіч Сергіевіч), беларускі паэт, перакладчык.

Нарадзіўся 15 ліпеня 1910 года ў Калінкавічах.

Прапаў без вестак у час Вялікай Айчыннай вайны.

**Склаў Васіль ВІЛЬТОЎСКІ**

*(Працяг будзе)*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Давіду СІМАНОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Рэдакцыя часопіса "Нёман" смуткуе з нагоды заўчаснай смерці былога супрацоўніка Эдуарда Адамавіча КАСПЯРОВІЧА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# "Альтэрнатыву" ствараем самі

19 красавіка ў канцэртнай зале "Мінск" адбылася прэзентацыя новага кампакт-дыска з запісамі песень вядомых беларускамоўных гуртоў. Гэты канцэрт стаўся не апошняй падзеяй у культурным жыцці сталіцы, бо, гледзячы на перапоўненую маладымі слухачамі залу, стала зразумелым — беларускамоўны рок ужо выхаваў сваіх гарачых прыхільнікаў, сваю адданую аўдыторыю і мае што ёй сказаць.

Этапам у гісторыі нацыянальнай дыскаграфіі стаў першы дыск з серыі "Вольныя танцы: Слухай сваё!", які быў разасланы на шматлікія радыёстанцыі Еўропы ды распаўсюджваўся тут, у Беларусі. Песні з першага дыска даволі часта гучалі на радыёхвалях, збольшага, еўрапейскіх краін...

Не падвялі выдаўцы з БМА-group. Абяцалі працяг серыі кампакт-дыскаў "Вольныя танцы" ў 2000 годзе і сваё абяцанне выканалі! Ужо другі дыск гэтай серыі пад загалоўкам "Новая альтэрнатыва" выходзіць на сённяшні беларускі фанаграфічны рынак. Гэтым разам распаўсюджваць у Беларусі навінку ўзялася партнёрская кампанія "Art classic company". Карацей, падыход сур'ёзны. Адрозніваецца "Новая альтэрнатыва" ад папярэдняга музычнага зборніка "Слухай сваё!", і павялічаным тыражом у 1500 асобнікаў.

Але ж, галоўнае адрозненне новага кампакт-дыска ў тым, што стаў ён больш камерцыйным. У тым сэнсе, што разлічаны на больш шырокую, чым раней, аўдыторыю. Таму на яго гукавых дарожках няма запісаў многіх вядомых калектываў, песні якіх з розных прычын не ўклаліся ў абраную канцэпцыю гэтай кампіляцыі. Маю на ўвазе гурты "Мясцовы час", "Камэлот", "Млын", "Склеп", "Зьніч", "Жыгімонт Ваза", "Сонца Мао", "Aquamorta", "Gateward" і шмат іншых перспектыўных беларускамоўных каманд з іх "нефарматнай" для некаторых радыёстанцый музыкай.

Наадварот, на дыску прадстаўлены запісы гуртоў ужо творча аформленых, вядомых, песні якіх амаль усе дыджэі будуць ставіць у свае ратацыі без пытанняў. Упэўнены, такі лёс чакае знакаміты хіт гурта "Уліс" — "Радыё Свабода", песні "Царкоўка", "Рок-каралёў-99" — гурта "Kriwi", "Дайнова" — паўэр-пап-гурта "Лявоны"...

Але не трэба думаць, што новы дыск — толькі для "дыназаўраў" беларускага рок-н-ролу. Значнае месца на дыску аддадзена і маладым, збольшага англамоўным, камандам. Але тут, на "Новай альтэрнатыве" прадстаўлены іх беларускамоўныя экзерсісы. Будзем спадзявацца, што для гуртоў "Happi Face", "Long Play", "Без Білета" гэтыя запісы стануць самым важным крокам у захапляльны і феерычны свет беларускамоўнага рок-н-ролу. У адваротным выпадку, кампазіцыі з гэтага зборнага дыска для гэтых гуртоў могуць застацца найвялікшымі дасягненнямі ў іх творчай біяграфіі.

Бадай, адзінае выключэнне на гэтым беларускамоўным дыску ды канцэрце-прэ-зентацыі было зроблена для мінскага рускамоўнага гурта "Нейро Дюбель", які прадстаўляе на дыску сатырычна-гратэскавую песеньку "Звездочки". Зважаючы на немалую папулярнасць гэтай каманды ў Беларусі, арганізатары запрашаюць гурт А. Кулінковіча на свае канцэрты ды змяшчаюць трэкі гурта на дысках серыі "Вольныя танцы". Мэты гэтых манеўраў відавочныя: улічваючы канвергенцыю фанаў "Нейро Дюбеля" і аматараў творчасці іншых беларускіх выканаўцаў, арганізатары небеспадстаўна спадзяюцца папаўняць шэрагі маладых прыхільнікаў беларускамоўнага року, пакупнікоў новага кампакт-дыска. Наяўнасць жа ў беларускамоўнай рок-абойме гэтага папулярнага калектыву засцерагае і выканаўцаў, і слухачоў ад такой непажаданай з'явы, як моўная ксенафобія сярод беларускамоўнай тусоўкі.

На новым дыску прадстаўлена творчасць маладых беларускамоўных каманд альтэрнатыўнага кірунку. Напрыклад, уладальнік Гран-пры фэсту "Басовішча-99" гурт "Exist" і іх кампазіцыя "Сам-насам" выклікае падвоеныя пачуцці. З аднаго боку — шчырасцю, шырынёй дынамічнага дыяпазону гучання выканаўцы імкнуцца стварыць запамінальны музычны вобраз, знайсці адпаведны эмацыянальны водгук слухачоў. З другога — гэтаму твору гурта "Exist" не хапае натуральнага кампазіцыйнага развіцця, эмацыянальнага ўзлёту, такога, як, напрыклад, у новым творы "Уліса" "Чаму?". Тут павольная, напружаная і шчымлівая мелодыя лагічна развіваецца ў кульмінацыю, а затым — у адзіны, маналітны музычны твор. Тым не менш, "Exist" — надзея і апора беларускай альтэрнатыўнай рок-музыкі.

Эксперыментальны кірунак беларускамоўнага року прадстаўлены на дыску кампазіцыяй гурта "Ur'ia" "Агу, вясна!". У канве гэтага твора гучыць экзатычны сітар, слухача захапляюць незвычайныя камп'ютэрныя гукавыя эфекты і тэмбры, гітарныя партыі і сола... Усё гэта прымушае ўспомніць даўнія эксперыменты Дж. Харысана ды фолк-рокавае наватарства "Песняроў" дваццацігадовай даўніны.

Вельмі добра, што БМА-group шмат робіць для творчай інтэграцыі рок-руху Беласточчыны ў агульны беларускі культурны кантэкст: выдае і распаўсюджвае касеты і дыскі беластоцкіх выканаўцаў беларускай песні, стала запрашае рок-гурты з Беласточчыны ў Беларусь. Вось і на новым дыску прыгожая балада гурта "R.F.-Braha" з лаканічнай назвай "Я" — добры прыклад супрацоўніцтва на карысць маладых беларусаў па абодва бакі Заходняга Буга.

Як заўжды, вытанчанасцю ды артыстычнасцю вызначаюцца павольныя песні Касі Камоцкай ды гурта "Новае Неба". Песня гэтага гурта "Котка" з альбома "Цэпеліны" з разраду музычных монаспектакляў, выкшталцоных па мелодыцы, заўсёды запамінальных ды кранаючых.

Сапраўдныя зоркі беларускага року і хэдлайнеры прэзентацыі — гурты "Палац" і "N.R.M.". Іх кампазіцыі, якія гучалі на канцэрце і запісаныя на новым дыску — "Заенка" ды "Мая ментальнасць" — сапраўды, як кажуць, "стопудовыя" хіты гэтага сезона. "Палац" прадстаўляе слухачам песенны ўзор каляндарнага цыкла — калядку. Гэтым разам гучанне гурта ад фолк-мадэрну адрознівалася перавагай "жывых" фарбаў" — акардэона, наяўнасцю духавых, гітар і... беларускіх цымбал! Выглядае на тое, што "Палац" змяняе кірунак свайго гучання ў бок фолкфанкавай стылістыкі. Гэты дрэйф заўважаецца і на новым кампакце. Нягледзячы на змены ў гуку, "Палац" — адна з самых папулярных ды стыльных фолкавых каманд Беларусі!

Песні гурта "N.R.M." сталі на прэзентацыі і на новым дыску своеасаблівым эмацыянальным узлётам слухацкага захаплення і стылістычным увасабленнем той назвы, якую прыдумалі для гэтага кампакт-дыска — "Новая альтэрнатыва". Песня з яго "Мая ментальнасць" — сапраўдны музычны талісман альбома. Фенаменальная папулярнасць гэтага гурта ў Беларусі ствараецца менавіта такімі творамі — глыбокімі і іранічнымі, меладычнымі і супердынамічнымі. "N.R.M.", акрамя іншага, паслядоўнікі самага папулярнага, бадай, кірунку сучаснай "цяжкай" музыкі — альтэрнатыўнага метал-року, сама ідэалогія якога вымагае пераадолення ўсіх штампаў традыцыйнай "металічнай" музыкі. Пераасэнсоўваючы ўсе стэрэатыпы, адкідваючы напрацаваныя схемы, музыкі "N.R.M." ствараюць кампазіцыі, якія з упэўненасцю можна аднесіць да класікі беларускай альтэрнатыўнай рок-музыкі.

Трэба адзначыць, што разам з кампакт-дыскам БМА была выдадзена і аднайменная магнітакасета. На ёй бонус-трэкамі прадстаўлены іншыя вядомыя выканаўцы: гурты "Крама" ды этнатрыо "Троіца", якія на гэтым канцэрце таксама вельмі цёпла былі сустрэты беларускімі аматарамі рок-музыкі.

І на заканчэнне — істотная, на мой погляд, заўвага. Як адзначалася раней, кампакт-дыск "Вольныя танцы. Новая альтэрнатыва" як па складзе выканаўцаў, падборы твораў, так і па афармленні значна больш камерцыялізаваны, чым папярэдні. Гэта тлумачыцца пастаўленымі выдаўцамі мэтамі — неабходнасцю акупнасці новага выдання, пашырэння ведаў пра беларускамоўны рок-н-рол... Як кажуць, намеры добрыя, але нешта ў такім падыходзе выклікае засцярогу: ці не можа стаць ужо наступны выдавецкі праект поўнасцю камерцыйным ды кампраметуючым усе ідэі беларускамоўнага рок-руху?

Магчыма, таму і ёсць неабходнасць зараз нагадаць, што прынцыпы чыкагскай эканамічнай школы ў такой далікатнай сферы як нацыянальная культура ды маладзёжная музыка ў нас могуць не спрацаваць і стаць катастрофай для гэтага выдавецкага праекта. Таму падаецца мэтазгодным у будучым з'яўленнем на новых дысках твораў гуртоў, якія, магчыма, і не ўкладваюцца ў "фармат" мясцовых FM-"радыётрындзелак", але пашыраюць наш, слухацкі фармат разумення тэндэнцый беларускамоўнай сучаснай музыкі. Новых адкрыццяў табе, БМА!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*29 траўня, панядзелак, 16.05* — "З любоўю да ўсіх", перадача памяці рэжысёра Наталлі Арцімовіч.

*30 траўня, аўторак, 13.10* — у цыкле "З фондаў БТ" тэленарыс пра народнага артыста Анатоля Труса з нагоды яго 90-годдзя.

*30 траўня, аўторак, 15.40* — "Гартаванне агнём", тэленарыс пра салігорскага каваля Міхаіла Усовіча.

*1 чэрвеня, чацвер, 16.30* — "Ля варот забытага раю", тэлепадарожжа ў старажытны горад Аркаім, што ў Чэлябінскай вобласці.

*2 чэрвеня, пятніца, 17.10* — "Славянскія тэатральныя сустрэчы", перадача аб тым, як праходзіў Міжнародны тэатральны фестываль у Гомелі.

**РАМПА**

З надыходам лета традыцыйна выправяцца разам з вучнямі на вакацыі і тэатры. Некаторыя, як "Вольная сцэна" ўжо ў чэрвені, іншыя — пазней.

**Купалаўскі тэатр**

*1 і 2 чэрвеня* — "Сон"
*3* — "Вечны Фама"
*4* — "Ажаніцца — не журыцца"
*5 і 7* — "Смак яблыка"
*8 і 9* — "Вандроўнікі ў Нью-Йорку"
*10* — "Касцюмер"

**Тэатр імя Горкага**

*1* — "Вольны шлюб"
*5* — "Ад'ютант-Ша ягамосці"
*6 і 7* — "Амфітрыён"
*8* — "Улюбёнцы лёсу"
*12* — "Хто твой каханак, Жазефа?"

## ПАРОДЫІ

Георгі ЮРЧАНКА

### Абрыдласць

Мне ўжо абрыдла
ўсіх любіць,
Мне ўжо абрыдла
добрым быць...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я — цень
Дракулы-вурдалака.
Алег НІКУЛІН

*Прызнацца, я, бадай,*
*не першы*
*Спакон вякоў пішу, твару.*
*І тое, што абрыдлі вершы,*
*На кожным кроку гавару.*

*Даволі з сумам і дрымотай*
*Згінацца ў немасці дугой!*
*Адкіну літасці, пяшчоты*
*І стану бабкаю Ягой.*

### Ветраны верш

Я — вецер...
Віктар СЛІНКО

*Неадольна шугае*
*па свеце*
*Зледзянелы ў завеі напеў.*
*Гэта свішча*
*зніабожаны вецер*
*У галінах агаленых дрэў.*

*З-за пагорка*
*імкне на балота,*
*Распявае*
*ля зніклых крывеш.*
*Я — той вецер!*
*І з гэтай нагоды*
*Нараджаецца*
*ветраны верш.*

## "Анёл з адным крылом..."

**7 чэрвеня** ў паэтычнай зале тэатра "Зніч", які месціцца ў сценах Чырвонага касцёла, адбудзецца вечарына-прэзентацыя новай кнігі вершаў "Радно" і песеннага магнітаальбома "Як яна і я" Эдуарда Акуліна.

У імпрэзе бяруць удзел: Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Сяргей Грахоўскі, Мікола Мятліцкі, Міхась Скобла, Алесь Камоцкі, Кастусь Герашчанка і іншыя вядомыя беларускія паэты і барды.

Запрашаем усіх прыхільнікаў беларускай паэзіі і песні. *Пачатак вечарыны а 19 гадзіне.*

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Запаветы чынавенства... Засвоеныя ці не з маленства "не бачу", "не кажу", "не чую". А як сказаць начыстую, што я ўсё ўжо бачу, што я ўсё ўжо чую, што болей не магу маўчаць. Галоўнае, што ўсё разумею... Ці здолею, аднак, ці пасмею.

●

Па "скрынцы" перадаюць "Подробности", па слову відаць — падробленыя.

●

Сям'я, заснаваная на любві, — ён любіць сябе, яна сябе. І дзеці ў іх ёсць, ды тут як ва ўсіх — бацькоў не слухаюць.

●

Паэт Самойлаў прачытаў з эстрады сваю "Памяць". — Каго гэта мне нагадвае? — зашаптала дама ў першым радзе. — Кабзона, любая, Кабзона, ягоная гэта песня, — упэўнена адказала суседка.

●

Якія чароўныя паязды ідуць ад "сягоння" ў "тады".

●

Камбінат бытавых паслуг амаль не рэальнасць, а дух. Затое да памераў генеральных узраслі паслугі рытуальныя. Няма цяпер справы важней, чым спрыяць смерці людзей.

●

Імя? А якая харызма? У гісторыі імя мала што значыць без "ізма".


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 25.05.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2634.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12